



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

14 мая 2021 года №20 (1359)

18+


# Касцёл 18 стагоддзя, які перажыў саветы і немцаў, застаўся без даху

## Пагутарылі з мясцовымі жыхарамі пра пажар і гісторыю храма ў Будславе



старонка 2

**Пажар у касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Будславе адбыўся 11 мая. Па справе пажару ўзбудзілі крымінальную справу. Адкрытыя рахункі для збору сродкаў на аднаўленне касцёла, у Будслаў запрашаюць валанцёраў.**

Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

**Штраф за сцяг**

старонка 8

ISSN 1991–7155




Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт **rh.by**





**Прыгадваем братоў Адамовічаў з Вілейшчыны, якія ў 1934 пераляцелі Атлантычны акіян**

старонка 17

**Вынікі футбольных матчаў у рэгіёне**

старонка 22

# Касцёл, які перажыў саветы і немцаў, застаўся без даху

## Што расказалі мясцовыя пра пажар у будслаўскім храме

МЯДЗЕЛ

**11 мая раніцай у сем гадзін жыхарка Будслава Марыя Іванаўна Яблонская выйшла садзіць грады. І менавіта яна першая заўважыла пажар у касцёле.**



Фота Ігара ПАЛЬНІЦКАГА.

Пажар знішчыў увесь дах галоўнай святыні каталікоў-беларусаў.

### Марыя Яблонская: Для нас гэта такая трагедыя

– У сем гадзін узялася садзіць агародзік. Чую: нейкія гукі на страсе. Думала, галубы ходзяць. У нас тут шмат птушак. Неяк на даху касцёла і бакланы сядзелі, і бацяны. Пасля ўбачыла нібы выпарэнне над касцёлам. Думала, ад таго, што на вільготны дах свеціць сонца. А праз хвілін 15 заўважыла, што з-пад металу на страсе вырываецца агонь бурага колеру. І пабегла да ксяндза. Ён жыве ў плябаніі, за касцёлам, – расказала жанчына карэспандэнтам.

Па яе словах, ксёндз **Дзмітры Дубовік** адразу выклікаў выратавальнікаў:

> **– Я яшчэ дамоў не паспела дайсці, а пажарная машына ўжо была. Адразу прыехала наша вясковая, пасля мінскія – з вялікімі лесвіцамі, доўгімі рукавамі, моцным напорам вады.**

Чаму так здарылася, жанчына не ведае. Адзначае, што пажар пачаўся з даху. Значыць, не ад свечак.

– Для нас гэты пажар такая трагедыя, не расказаць! Столькі стагоддзяў касцёл наш стаяў! Пры маёй памяці нічога падобнага не было. Нават немцы хацелі бамбіць, ды не далі рады!

Марыя Іванаўна 77 год жыве насупраць касцёла. Яна – прыхаджанка храма. У гэты касцёл хадзілі яе маці і бабуля. Прыгадвае, што пасля Другой сусветнай касцёл быў заліты зялёнай фарбай. Відаць, для таго, каб зрабіць яго менш заўважным. А калі пасля Другой сусветнай з Украіны прыехалі новыя ксяндзы, то ледзь адмылі яе.

У савецкія часы людзі таксама не здаваліся. Не далі зрабіць з храма ні клуб, ні склад.

### Як мясцовыя ратавалі свой касцёл

Побач з касцёлам сустракаем **Дану** і **Вольгу**. Дана жыве ў Будславе.

Яна памятае яшчэ той час, як настаўнікі праганялі дзяцей з набажэнства ў касцёле.

А Вольга, якая родам адсюль, прыехала на выхадныя з Мінска. Разам з мужам і аднавяскоўцамі яна выносіла маёмасць з храма: і алтар, і абразы, і кнігі, і цяжкія старажытныя спаведніцы. Працавалі разам з ксяндзом. Адразу выносілі маёмасць на вуліцу, а пасля – у будынак побач з касцёлам.

> **– У першую чаргу, канешне, выносілі абраз Маці Божай Будслаўскай. Нешта з другога паверха перадавалі, а мы пераймалі.**

Выносілі, пакуль маглі, а пасля стала шмат дыму, і выратавальнікі сказалі выходзіць, – прыгадвае Вольга.

Па словах відавочцаў, большую частку маёмасці атрымалася выратаваць. Арган і жывапіс пацярпелі ад вады. Вяскоўцы прызналіся, што спадзяюцца на ўзаемадапамогу і салідарнасць і вераць, што іх касцёл будзе адноўлены.

### МНС: Пажар тушылі амаль восем гадзін

Па інфармацыі прэсслужбы МНС, пажар змаглі лакалізаваць у 11:24, а цалкам патушылі ў 15:21. На месцы пажару працавалі выратавальнікі з Мядзельскага, Вілейскага, Докшыцкага, Астравецкага раёнаў і Мінска, спецыялісты пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада Мінскай вобласці. Лакалізацыя пажару ўскладнялася тым, што першапачаткова гарэлі драўляныя канструкцыі ў схаваных пустотах паміж перакрыццямі і пакрыццём.

### Следчы камітэт пачаў крымінальную справу за парушэнне правілаў бяспекі

Следча-аператыўная група агледзела месца здарэння з выкарыстаннем магчымасці перасоўнай крыміналістычнай лабараторыі. Працу на месцы здарэння каардынаваў намеснік начальніка УСК па Мінскай вобласці **Аляксандр Зямніцкі**.



Па словах ксяндза, арган і некаторая маёмасць пацярпелі ад вады.

Мядзельскі раённы аддзел Следчага камітэта па гэтым факце пачаў крымінальную справа па частцы 2 артыкула 304 «Парушэнне правілаў пажарнай бяспекі асобай, адказнай за іх выкананне, што пацягнула па неасцярожнасці ўзнікненне пажару, які прычыніў шкоду ў буйным памеры» Крымінальнага кодэкса. Для ўстанаўлення прычыны пажару прызначанае правядзенне комплекснай пажарна-тэхнічнай экспертызы.

Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі – былы бернардзінскі, цяпер прыходскі каталіцкі храм у Будславе Мядзельскага раёна. Помнік архітэктуры позняга барока. У касцёле знаходзіцца абраз Маці Божай Будслаўскай – адзін з найбольш шанаваных каталіцкіх абразоў. У 1996 годзе Папа Рымскі Ян Павел II абвясціў гэту ікону патронкай Беларусі. 28 лістапада 2018 года ўрачыстасць у гонар ушанавання абраза Маці Божай Будслаўскай («Будслаўскі фэст») унеслі ў Рэпрэзентатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

*Апытанне на тэму ўспамінаў, звязаных з будслаўскім касцёлам, чытайце на старонцы 24.*



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Што будзе з адходамі БелАЭС і як яна паўплывае на наваколле

АСТРАВЕЦ

**Падчас грамадскіх слуханняў перад выдачай ліцэнзіі на эксплуатацыю энергаблока №1 БелАЭС Дзяржкамнагляду паступіла больш за семдзесят пытанняў. На 47 з іх спецыялісты паспелі адказаць падчас грамадскіх слуханняў.**



Фота Настасі УТКІНАЙ.

Спецыялісты адказалі на пытанні пра бяспеку Беларускай АЭС.

### Падзенне самалёта

Падчас слуханняў галоўны спецыяліст рэгулявання ядзернай бяспекі Дзяржатамнагляду **Ірына Віцязь** расказала, што Беларуская АЭС разлічаная на падзенне лёгкага самалёта вагой да 5,6 тоны. «Што адбудзецца пры падзенні на энергаблок самалёта масай больш за 5,7 тоны, які ляціць з хуткасцю больш за 100 метраў у секунду?» – спытаў прадстаўнік праграмы «Бяспека радыеактыўных адходаў» расійскага сацыяльна-экалагічнага саюза **Андрэй Ажароўскі**.

Спецыялісты адказалі, што ў Беларусі прымаюцца меры па змене маршрутаў найбольш небяспечных паветраных трас, а над пляцоўкай Беларускай АЭС дзейнічае забароненая зона для палётаў ўсіх відаў паветраных судоў і дронаў. Дзяржкамнагляд спасылаецца на справаздачу місіі МАГАТЭ, дзе гаворыцца, што на БелАЭС забяспечваецца абарона ад крушэння паветранага судна з прымяненнем праектных і адміністрацыйных мер, якія зводзяць да мінімуму верагоднасці падзення самалёта на пляцоўку АЭС.

### Як АЭС паўплывае на Вілію

Асноўны прыродны рэсурс для бесперапыннай працы станцыі – паверхневая вада, якая бярэцца ў асноўным з Віліі, кажуць спецыялісты. Для атамнай электрастанцыі ўстаноўлены нарматывы дапушчальных скідаў забруджвальных рэчываў у сцёкавых водах, якія адводзяцца ў вадаёмы. А воды, якія скідваюцца ў раку, праходзяць вытворчы лабараторны кантроль. Маніторынг навакольнага асяроддзя ідзе бесперапынна.

**Штотыдзень маніторыцца ўзровень, тэмпература, мутнасць вады, расход вады, хуткасць плыні.**

А сем разоў на год адбіраюцца пробы вады на вызначэнне хімічнага і біялагічнага складу. Зімой назіраюць за лёдам. Кантроль хімічнага забруджвання навакольнага асяроддзя ад уздзеяння Беларускай АЭС па розных параметрах праводзіцца раз на год для зямлі, жывёл і расліннасці. А паветра правяраецца па гэтых параметрах 32 разы на год.

### Пра кантроль радыяцыйнага фону

Старшыня праўлення грамадскага аб'яднання «Экадом» **Ірына Сухій** заўважыла, што дадзеныя маніторынгу радыяцыйнага кантролю не даступныя на сайце ў рэжыме рэальнага часу. Прадстаўнікі Дзяржкамнагляду адказалі, што дадзеныя аўтаматызаванай сістэмы кантролю радыяцыйнай абстаноўкі абнаўляюцца на сайце БелАЭС адзін раз на суткі. Вынікі вымярэння магутнасці дозы гама-выпраменьвання з пастоў аўтаматызаванай сістэмы кантролю радыяцыйнай абстаноўкі Мінпрыроды публікуюцца на сайце Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя пакуль раз на суткі. Але ў будучыні плануецца абнаўляць іх не радзей, чым кожныя тры гадзіны.

### А што з адходамі?

Радыеактыўныя адходы пасля часовага захоўвання на атамнай электрастанцыі на працягу дзесяці гадоў будуць накіроўвацца ў пункт пахавання. Яго плануецца пабудаваць да 2030 года. Высокаактыўныя адходы па заканчэнні праектнага тэрміну захоўвання ў спецыяльна абсталяваным адсеку (60 гадоў) будуць размяшчаць у пункце пахавання ў глыбокіх геалагічных фармацыях. Праз дзесяць гадоў у Беларусі ўзвядуць першую чаргу сховішча радыеактыўных адходаў. Цяпер выбіраюць пляцоўку. Нізка- і сярэднеактыўныя адходы будуць захоўваць на самой пляцоўцы атамнай станцыі дзесяць гадоў. Плануюць, што за 60 гадоў праектнага тэрміну эксплуатацыі Беларускай АЭС створаць каля дзевяці тысяч кубаметраў нізкаі сярэднеактыўных, а таксама прыкладна 60 кубаметраў высокаактыўных адходаў.

**Паводле gosatomnadzor. mchs.gov.by.**

## Ад 15 мая можна паляваць на казулю

**Ад 15 мая да 30 верасня дазваляецца паляванне на казулю – дарослых самцоў, селекцыйных жывёл любога полу і ўзросту.**

Паляваць можна ва ўсе дні тыдня, на працягу сутак з засады, з падыходу на тэрыторыі паляўнічых угоддзяў, за выключэннем зон супакою – месцаў, дзе жывёлы размнажаюцца і харчуюцца, а таксама гадуецца маладняк.

Дазволеныя наступныя прылады палявання:

– наразная паляўнічая зброя з дульнай энергіяй кулі звыш 1500 джоўляў;

– гладкаствольная паляўнічая зброя з выкарыстаннем патронаў з кулямі або карцечу;

– паляўнічыя лукі і арбалеты.

Нагадваем, што ў выпадку парушэння ўказаных патрабаванняў паляўнічы можа несці адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Калі вы сталі сведкам фактаў браканьерства, просім паведамляць у Маладзечанскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па адрасе: **Маладзечна, вуліца Замкавая, 15**, альбо па тэлефонах: **(8 0176) 778375, 375296689083 (А1).**

**Аляксандр БЯЛЬКО, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**848**

Столькі чалавек у 2020 годзе скончылі аспірантуру.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.05 | 13.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5623 | **2.5309** |
| Еўра | 3.0749 | **3.0705** |
| Злоты, 10 | 6.7211 | **6.7617** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4247 | **3.4180** |
| Грыўня, 100 | 9.2395 | **9.1495** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **6.05** | **13.05** |
| Еўра | 3.0300/3.1200 | **3.0300/3.1200** |
| Долар ЗША | 2.5200/2.5850 | **2.5000/2.5700** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **5.05** | **12.05** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 22,90 | **23,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,25 | **4,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,90 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,00 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 4,90 | **4,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,40 | **2,40** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,20** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,60 | **2,60** |
| Агуркі, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Буракі, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Капуста маладая, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 1,50 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 4,80 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 7,50 | **6,50** |
| Радыс, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Салата, пучок | 0,70 | **0,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Цыбуля-сявок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Часнок, 1 кг | 6,80 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Вінаград, 1 кг | 8,90 | **7,90** |
| Грушы, 1 кг | 5,50 | **3,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Лімон, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

# Мантажнік спагнаў з арганізацыі больш за чатыры тысячы рублёў

## У судзе даказалі, што наймальнік звольніў мужчыну незаконна

СМАРГОНЬ

**Суд Смаргонскага раёна разгледзеў грамадзянскую справу па позве працаўніка ў дачыненні да таварыства з абмежаванай адказнасцю аб аднаўленні на працы, спагнанні сярэдняга заробку за час вымушанага прагулу і грашовай кампенсацыі маральнай шкоды.**


Фота vstroiku.ru.

Мужчыну вярнулі на пасаду.

10 жніўня 2020 года мужчыну ўзялі на працу мантажніка ў арганізацыю. З ім заключылі кантракт на адзін год з папярэднім выпрабаваннем на два месяцы. 18 лютага 2021 года мужчыну звольнілі па ініцыятыве наймальніка за сістэматычнае невыкананне сваіх абавязкаў без уважлівых прычын.

Падставай для звальнення сталі два загады аб абвяшчэнні вымоў ад наймальніка ад 2 і 4 лютага.

Мужчына палічыў звальненне незаконным. Ён не адмаўляў, што 26 студзеня спазніўся на працу на дзесяць хвілін, – за гэта яму далі першую вымову. Спазніўся на працу па ўважлівай прычыне: яго спыніў супрацоўнік ДАІ Смаргонскага РАУС, пра гэта было вядома наймальніку. Другую вымову атрымаў за тое, што выйшаў з працы за чатыры хвіліны да заканчэння працоўнага дня. Аб гэтым сцвярджалі галоўны інжынер, інжынер, кантралёр КПП. Насамрэч ён сышоў з працы ў 17:01.

Мужчына адзначаў, што незаконным звальненнем яму нанеслі маральную шкоду.

Прадстаўнік адказчыка позву не прызнаў. Пракурор падтрымаў ухваленне позвы. Суд пастанавіў аднавіць мужчыну на працы, спагнаць з арганізацыі сярэдні заробак за час вымушанага прагулу ў памеры **4072,88** рубля, грашовую кампенсацыю ў памеры **450** рублёў, у пакрыццё судовых выдаткаў **750** рублёў. З арганізацыі спагналі дзяржаўную пошліну ў памеры **290,64** рубля.

Рашэнне ў частцы аднаўлення работніка на працы, спагнанні на яго карысць заробку за адзін месяц у памеры **1 450** рублёў падлягае неадкладнаму выкананню.

Рашэнне не абскарджвалася і набыло законную моц.

**Паводле прэс-службы Гродзенскага суда.**

## ДАІ шукае відавочцаў аварыі, што здарылася ў красавіку

МАЛАДЗЕЧНА

ДАІ шукае відавочцаў аварыі 2 красавіка, у якой пацярпеў пешаход.

У гэты дзень каля паловы восьмай раніцы 56-гадовы кіроўца на «Пежо-206» ехаў па правай паласе руху з боку Маладзечна ў бок Мінска па трасе Р-28. У межах вёскі Крыніца ён наехаў на 47-гадовага пешахода на пераходзе. У пацярпелага – цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Просьба сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: Маладзечна, вуліца Дудко, 1-18 або па тэлефонах: **(8 0176) 74-01-40, 74-01-43** ці **102.**

**АДАІ Маладзечна.**

## Меркаваныя прычыны пажараў – падпал

МАЛАДЗЕЧНА

4 і 5 мая здарыліся пажары ў Радашкавічах і Маладзечне, паведамляюць у Маладзечанскім ГРАНС.

4 мая ў 1:12 ратавальнікі выязджалі на ліквідацыю пажару ў Радашкавічах па вуліцы Заслаўскай. Пажар знішчыў цалкам драўляную гаспадарчую пабудову.

5 мая ў 14:25 спецыялісты накіраваліся на другі пажар. Ён здарыўся ў Маладзечне на Вялікім Гасцінцы ў аднапавярховым цагляным будынку. У выніку закураная столь, пашкоджаныя сцены, маёмасць.

**Прычыны пажараў высвятляюцца. У абодвух выпадках падазраюць падпалы.**

МНС папярэджвае: прычынай многіх надзвычайных сітуацый з'яўляецца безадказнасць чалавека і невыкананне правілаў пажарнай бяспекі. Не грэбуйце жыццёва важнымі правіламі. Беражыце сябе і сваіх блізкіх! У выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый неадкладна тэлефануйце на нумары 101 ці 112, не забываючы ўказваць адрас і месца пажару.

Дарэчы, за апошні месяц гэта не першыя пажары на Маладзечаншчыне, прычынай якіх разглядаюць падпал.

**Аддзел інфармацыі.**

## Гарэла кватэра. Выратавалі гаспадара

ВІЛЕЙКА

Паведамленне пра пажар вілейскія ратавальнікі атрымалі 8 мая ў 23:08.

Гарэла кватэра на трэцім паверсе ў пяціпавярховіку па адрасе: Кастрычніцкая, 22. Работнікі МНС выратавалі з пажару 47-гадовага мужчыну – гаспадара кватэры.

Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## Канфіскавалі больш за пяць тон металалому

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Работнікі групы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі і аддзялення Дзяржаўтаінспекцыі Мядзельскага РАУС 6 мая падчас рэйду затрымалі трох кіроўцаў, якія перавозілі лом чорнага металу агульнай вагой больш за пяць тон.

**Затрыманыя жыхары Вілейкі не з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі. Устанавілі, што лом яны збіралі, каб здаць і атрымаць даход.**

Міліцыянеры склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні па частцы 2 артыкула 13.3 КаАП Рэспублікі Беларусь. Санкцыя прадугледжвае штраф да 290 рублёў з канфіскацыяй прадмета правапарушэння.

**УУС Мінаблвыканкама.**

## Гарэў пакой у інтэрнаце. Выратавалі мужчыну

ВАЛОЖЫН

7 мая каля паловы пятай вечара сістэмы аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі і перадачы паведамленняў аб надзвычайных сітуацыях «Маланка» заўважылі пажар у інтэрнаце Валожына, на вуліцы Чапаева.

Гарэў пакой на другім паверсе трохпавярховага будынка інтэрната Валожынскага жылкамунгаса. Работнікі МНС выратавалі 62-гадовага мужчыну, пенсіянера.

Пажар пашкодзіў маёмасць у пакоі. Пацярпелых няма. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**

## Ад сутыкнення машына выскачыла на сустрэчку і наехала на жанчыну

ВІЛЕЙКА

4 мая каля 11 гадзін дня на скрыжаванні вуліц Партызанскай і Маркава ў Вілейцы здарылася ДТЗ, у якім пацярпела жанчына-пешаход, паведамілі ў АДАІ Вілейкі.

73-гадовы жыхар Вілейшчыны на аўтамабілі «Форд-Эскейпа», выязджаючы з другараднай дарогі, не саступіў машыне «Опель-Астра», якая ехала па галоўнай дарозе. У выніку аўтамабілі сутыкнуліся. За рулём «Опеля» быў 33-гадовы вілянчук.

У выніку ДТЗ «Форд» ад сутыкнення выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе наехаў на 61-гадовую мясцовую жыхарку. Жанчыну з траўмамі шпіталізавалі. Кіроўцы ў ДТЗ не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Загарэўся хлеў, пацярпела пенсіянерка

ВІЛЕЙКА

Пажар у вёсцы Карвелі Любанскага сельсавета здарыўся 11 мая. Пацярпела пенсіянерка.

Выратавальнікам пра здарэнне паведамілі ў 13:45. На месцы спецыялісты ўбачылі, што гарыць драўляны хлеў, расказала афіцыйны прадстаўнік Упраўлення МНС па Мінскай вобласці **Анастасія Швайбовіч**.

На пажары пацярпела 62-гадовая гаспадыня. З атручэннем прадуктамі гарэння жанчыну забралі ў бальніцу. Агонь пашкодзіў дах, частку сцен і перакрыццяў. Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кіроўцу асудзілі за смяротную аварыю

ВАЛОЖЫН

Валожынскі суд пакараў мужчыну за смяротную аварыю, якая адбылася ў снежні. Абвінавачанага асудзілі на чатыры гады калоніі.

Суд Валожынскага раёна разгледзеў справу 29 красавіка. Мужчыну абвінавачвалі па частцы 4 артыкула 317 Крымінальнага кодэкса «Парушэнне правілаў дарожнага руху або эксплуатацыі транспартных сродкаў».

Згодна з прысудам, 34-гадовы мужчына ў стане алкагольнага ап'янення кіраваў аўтамабілем падчас неспрыяльных умоў надвор'я. Ён не абраў бяспечную хуткасць, выехаў на ўзбочыну і перакуліўся. У выніку ДТЗ пасажыр аўтамабіля атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні, ад якіх загінуў на месцы здарэння.

Мужчыну пакаралі чатырма гадамі выпраўленчай калоніі з пазбаўленнем права займацца пэўнай дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі на тэрмін пяць гадоў.

У якасці матэрыяльнай кампенсацыі маральнай шкоды з асуджанага спагналі 20 тысяч рублёў.

Прысуд у законную сілу не ўступіў, ён можа быць абскарджаны і апратэставаны

**Прэс-служба Мінскага абласнога суда.**

# Эколагі папярэджваюць пра небяспеку нітратаў для дзяцей

## Яны просяць жанчын паўдзельнічаць у даследаванні

**Актывісты з Цэнтра экалагічных рашэнняў даследуюць, наколькі развітая ў нашым рэгіёне сістэма інфармавання цяжарных жанчын пра нітраты ў вадзе і іх шкоду для немаўлят. Нашых чытачак, якія маюць дзяцей да трох гадоў або цяжарныя, просяць паўдзельнічаць у даследаванні.**



Аказваецца, вада з калодзежа можа быць небяспечнай для малых дзяцей.

Фота tver24.com.

### А цяпер пра шкоду нітратаў

Чатыры гады таму Столінскі раён Брэсцкай вобласці біў абласныя рэкорды па колькасці проб калодзежнай вады з павышаным утрыманнем нітратаў. Як вынік – цяжкі стан у дзяцей да чатырох гадоў.

**Тады медыцынскае кіраўніцтва раёна зразумела праблему і рэкамендавала ў паліклініках выдаваць накіраванне на вызначэнне якасці вады тым цяжарным, якія карыстаюцца вадой з калодзежа.**

Вынікі ўклейваюць у абменную карту цяжарнай, а будучым маці абавязкова расказваюць пра небяспеку нітратаў у вадзе, паведамляе ecoidea.by.

Такія ж меры ад 2017 года прымаюць і ў Клічаве Магілёўскай вобласці. Праўда, тут падобныя захады носяць не рэкамендацыйны, а абавязковы характар.

Праблема ўплыву нітратаў на здароўе цяжарных і нованароджаных вострая. Адсутнасць інфармацыі можа стаць прычынай трагедыі. Так, у студзені 2014 года на Гомельшчыне памерла дзіця. У цэнтральнай раённай бальніцы, куды дзяўчынку прывезла «хуткая», выказалі здагадку, што прычынай магла стаць вада з калодзежа з высокім утрыманнем нітратаў. У 2018 годзе яшчэ адзін падобны інцыдэнт адбыўся на Гомельшчыне: месячнае дзіця атруцілася калодзежнай вадой. Узровень нітратаў у калодзежы ў 33 разы перавышаў дапушчальную норму. Але тады дзіця выжыла.

Усе гэтыя выпадкі пацвярджаюць неабходнасць ранняга выяўлення нітратнага забруджвання вады ў калодзежах і ўкараненне такіх практык па ўсёй краіне, лічыць спецыяліст па кіраванні воднымі рэсурсамі Цэнтра экалагічных рашэнняў **Наталля Парэчына**:

– Практыка, якая існуе ў Брэсцкай і Магілёўскай абласцях, вельмі правільная і карысная з пункту гледжання прафілактыкі нітратнага атручэння малалетніх дзяцей.

**Рашэнне аб распрацоўцы сістэмы мер ранняга выяўлення нітратнага забруджвання калодзежаў і іншых крыніц нецэнтралізаванага водазабеспячэння неабходна прымаць на ўзроўні Міністэрства аховы здароўя.**

Варта весці інфармацыйную працу пра ўплыў нітратаў на здароўе чалавека ва ўсіх медыцынскіх установах краіны ці, як мінімум, на перадродавых курсах, што звычайна праходзяць жанчыны, якія збіраюцца стаць маці. Важна рабіць гэта на пастаяннай аснове, можна кааперавацца з грамадскімі арганізацыямі, такімі, як наш Цэнтр экалагічных рашэнняў.

**Наталля Парэчына падкрэсліла, што часцей ад «нітратнай» калодзежнай вады пакутуюць тыя раёны, дзе засяроджана шмат жывёлагадоўчых комплексаў і больш развітая раслінаводства. Менавіта сцёкі з палёў і сцёкавыя воды ферм забруджваюць падземныя воды.**

Актуальную інфармацыю аб стане калодзежнай вады ў сваёй мясцовасці можна даведацца ў раённых цэнтрах гігіены і эпідэміялогіі. Ёсць нюанс: службы правяраюць толькі грамадскія калодзежы. Прыватныя калодзежы – адказнасць гаспадароў, іх не даследуюць.

– Звярніце ўвагу, што канцэнтрацыя нітратаў у пітной вадзе змяняецца ад сезона да сезона. І нават вада ў двух калодзежах побач можа адрозніваецца. Калі ваша сям'я п'е ваду з калодзежа, калонкі або крыніцы, лепш рэгулярна правяраць ваду самастойна, – кажа Наталля Парэчына.

### Чаму дзеці ў групе рызыкі

Доктар-лабарант санітарна-хімічных і таксікалагічных метадаў выпрабаванняў Мінскага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя **Аляксандра Сырапарава** паведамляе, што, трапляючы ў стрававальны тракт чалавека, нітраты пад уздзеяннем кішачнай мікрафлоры аднаўляюцца да нітрытаў. Нітрыты, у сваю чаргу, злучаючыся з гемаглабінам, утвараюць устойлівае злучэнне метгемаглабін і зніжаюць здольнасць эрытрацытаў пераносіць кісларод, надыходзіць гіпаксія тканак. У выніку парушаецца абмен рэчываў, зніжаецца здольнасць арганізма супрацьстаяць розным захворванням.

Асабліва небяспечнае высокае ўтрыманне нітратаў у вадзе для дзяцей самага ранняга ўзросту, у прыватнасці, калі вада выкарыстоўваецца для падрыхтоўкі сумесяў і каш.

– Гэта абумоўлена няспеласцю дзіцячай ферментатыўнай сістэмы, якая аднаўляе метгемаглабін у гемаглабін, паніжанай кіслотнасцю страўнікавага соку і высокім узроўнем ужывання вадкасці.

**Пры атручэнні ў дзяцей імкліва развіваецца цяжкая хвароба крыві – метгемаглабінемія, першыя прыкметы якой – сінь вакол рота, на руках і нагах, магчымыя абцяжаранае дыханне, ваніты і дыярэя.**

Можа развіцца дрымотнасць, узрасці слінацячэнне, у цяжкіх выпадках з'яўляюцца сутаргі, можа назірацца страта свядомасці, аж да смяротнага зыходу.

У цэлым да групы рызыкі адносяцца людзі з захворваннямі сардэчна-сасудзістай і дыхальнай сістэм, цяжарныя жанчыны, пажылыя людзі з недастатковым кіслародным забеспячэннем органаў і тканак, асобы з пептычнай язвай або хранічным гастрытам.

### Як паўдзельнічаць

Нашы чытачкі, якія чакаюць дзіця або маюць дзяцей да трох гадоў, могуць паўдзельнічаць у даследаванні. Для гэтага трэба запоўніць электронную анкету, скарыстаўшыся QR-кодам.



**Аддзел інфармацыі.**

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) 53-78-04, 8 (029) 676-84-20.
АСТРАВЕЦ вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) 2-11-40.
АШМЯНЫ вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) 7-56-17.
ВАЛОЖЫН вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) 6-13-85.
ВІЛЕЙКА вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) 2-00-83, 2-01-03.
вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) 5-52-33, 5-55-39.
МЯДЗЕЛ вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) 5-52-66, 5-57-65.
СМАРГОНЬ вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) 4-47-16.


## ТРАНСПАРТ

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар, пагрузчык. Т. (8-029)5524004.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на ходу. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на ходу для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра з балконам агульнай плошчай 30,3 кв.м у цэнтры Маладзечна па вуліцы Вялікі Гасцінец, д. 72-а. Т. (8-029) 7672490.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Міру, 5/5, 1988 г.п., 61,3 кв.м (панэльны дом). Т. (8-029) 7680884.*

• Дачны ўчастак у в. Сечкі (5 км ад Маладзечна) альбо здам у арэнду. 10 сотак, вада, электрычнасць. Нядорга. Т. (8-029) 8771364.*

• Дом стары, 20 сотак у в. Старыя Баруны Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці. Т. (8-029) 7754975.*

• Дом у аграгарадку Ілья. Агульная плошча – 90 кв.м. Чатыры пакоі, кухня, санвузел раздзельны. Вялікі ўчастак, сад, хлеў з блокаў, развітая інфраструктура. Кошт – 78 000 рублёў. Т. (8-033) 3103610.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

• Дом у в. Данюшава Смаргонскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-033) 6476869.*

• Дом у в. Маркуны, 28 Астравецкага раёна, 10 000 рублёў, торг. Т. (8-029) 3681210.*

• Зруб, домік для калодзежа. Астравецкі раён. Т. (8-044) 4781305.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

## СПАЧУВАННЕ

**Паважаная Ніна Уладзіміраўна Манцэвіч!**

Не стала вельмі дарагога для вас чалавека – бацькі, **Ігнатовіча Уладзіміра Якаўлевіча.** Ён прайшоў дарогамі вайны ад першага да апошняга дня. І менавіта адразу пасля Дня Перамогі, апоўначы 10 мая, яго сэрца перастала біцца. Вы заўсёды ганарыліся ім. І ў вашай памяці і памяці вашых дзяцей і блізкіх ён застанецца навечна.

Мы ведаем, што страта роднага чалавека – гэта вельмі балюча, гэта цяжка перажыць. Але будзьце мужныя, трымайцеся. Мы смуткуем разам з вамі, падтрымліваем вас і раздзяляем вашы гора і боль. А таксама выказваем шчырыя спачуванні вашаму мужу **Аляксандру Барысавічу,** дочкам **Насці** і **Жэні** і ўнуку **Данаціку.**

**Калектыў «Рэгіянальнай газеты».**

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах любой складанасці. Хутка. Якасна. Нядорага. ІП Касевіч С.Л. УНП 591822291. Т. (8-029) 3042976, (8-025) 5422115.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Дэмантаж любой складанасці. Знос старых дамоў. ІП Булаўская Е.В. УНП 692013546 Т. (8-029) 5417847.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усё для даху і агароджы. Маладзечна, вул. Л.-Роменская, 153-а. ІП Барчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-0176) 580400, (8-029) 2345641.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Матаблок (рухавік Honda), б/у. Т. МТС (8-033) 6000181.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі, ягняты і каза. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.*

• Карова, 8 гадоў. Т. (8-01797) 34888, (8-044) 4864623.

• Свінкі кармалы на дарошчванне і парасяты. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двойні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Крытае гандлёвае месца на рынку ў Маладзечне, 12 кв.м. Т. (8-033) 6028112 МТС.*

• Павільён у Маладзечне, 24 кв.м. Т. (8-029) 7642123.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу. Т. (8-029) 7642123 МТС.*

• Бульбу. Т. (8-029) 8603066, Наташа.*

### АДДАМ

• Аддам трумо (тумба з люстэркам) у добрыя рукі. Колер карычневы, паліраванае. Т. (8-029) 6458473.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленае пасведчанне на імя ІП Базыка Алега Валер'евіча, УНП 691393353, лічыць несапраўдным.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Праектнай арганізацыі патрабуюцца канструктары, В і К, генпланіст. Т. (8-033) 6322767.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Кладка печаў, камінаў. Дэмантаж. Фундамент. Т. (8-029) 3279874.

• Шукаю работу па рамонце ў драўляных дамах ніжніх вянцоў. Рамонт і аднаўленне фундаментаў, дахаў. Т.(8-029) 8745410.*

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*




ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – да 16:00 серады
Аддзел рэкламы: (8-0176) 53-78-04, 53-78-06 (факс), (8-029) 676-84-20, 573-28-47
E-mail: reklama@rh.by

# У Багданаве адкрылі помнік Фердынанду Рушчыцу

## Аўтар помніка – зямляк мастака

ВАЛОЖЫН

**На пачатку мая ў Багданаве, што ў Валожынскім раёне, адкрылі помнік мастаку Фердынанду Рушчыцу.**

Аўтарам бюста з'яўляецца вядомы беларускі скульптар, ураджэнец Ракава **Валяр'ян Янушкевіч**. Яшчэ ў канцы мінулага года бюст Рушчыца аўтарства Янушкевіча прэзентавалі ў Пасольстве Польшчы ў Беларусі. Тады Валяр'ян Язэпавіч прызнаўся, што стварыў помнік 20 год таму з думкай пра тое, што ён будзе некалі ўсталяваны ў Багданаве.

**Праект прафінансавала Пасольства Рэспублікі Польшча пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску.**

Урачыстая цырымонія адкрыцця помніка адбылася ў прысутнасці прадстаўнікоў Пасольства Рэспублікі Польшча ў Мінску, Польскага інстытута і мясцовай грамадскасці.

**Багданава – месца нараджэння мастака. Тут быў родавы маёнтак Рушчыцаў. У дзяцінстве і ў дарослым жыцці творца мяняў шмат месцаў жыхарства. Але напрыканцы вярнуўся ў родавае гняздо – Багданава. Тут і памёр у 1936 годзе. Пахаваны на мясцовых могілках.**




Фота instytutpolski.pl

Цяпер на радзіме Рушчыца, у Багданаве, стаіць помнік мастаку.

Вядомы як мастак, графік, тэатральны дэкаратар і педагог.

**У творчасці ўвасабляў традыцыі беларускага, рускага, польскага, французскага мастацтваў.**

Аказаў пэўны ўплыў на развіццё жанру пейзажу.

**У творчасці знайшлі адлюстраванне жыццё і побыт беларускага народа, традыцыі беларускага рэалістычнага жывапісу.**

Дачка мастака **Яніна Рушчыц** сцвярджала, што яе бацька заўсёды лічыў сябе «тутэйшым», гэта значыць, беларусам.

**Аддзел інфармацыі.**

# «Затрымліваем на падставе вашых дзіўных сцягоў»

## Маладзечанцы прысудзілі штраф 4 350 рублёў за сцяг у машыне

МАЛАДЗЕЧНА

**Штраф у 4 350 рублёў прысудзіў Маладзечанскі раённы суд гараджанцы Ілоне Пішчынскай, маці дваіх дзяцей, за тое, што ў яе машыне ззаду вісеў вялікі бел-чырвона-белы сцяг.**




Фота Настассі УТКІНАЙ.

Ілона Пішчынская гатовая дайсці і да Вярхоўнага суда, і да міжнародных праваабарончых арганізацый.

Ілона – сама юрыст па адукацыі, і яна ўпэўненая: непад'ёмны штраф абсалютна не адпавядае яе так званаму правапарушэнню. І ў абскарджанні прыгавору маладзечанка збіраецца дайсці да Вярхоўнага суда.

### Са сцягам у машыне ездзіла ад 25 сакавіка да 10 красавіка

– Сцяг у сваю машыну на шторку багажніка я змясціла 25 сакавіка, на Дзень Волі. Канешне, ён быў выдатна бачны. Так і ездзіла да 10 красавіка, – расказвае Ілона. – У гэты дзень павезла сямігадовую дачку на заняткі па гітары ў студыю, што на вуліцы Валынца. Спынілася на паркоўцы. З 12:00 да 13:15 дачка займалася. Недзе ў 13:20 мы выязджалі са стаянкі. Выязджаючы, я заўважыла машыну ДАІ, якая пачала ехаць за мной. Калі шчыра, адразу зразумела: хутка будзе прыпынак. Са стаянкі паспела выехаць на дарогу. І тут на машыне ДАІ уключыліся мігалкі. Я, вядома, спынілася, – прыгадвае маладзечанка падзеі 10 красавіка.

Адразу ў кіроўцы праверылі дакументы. З імі было ўсё ў парадку. А пасля Ілоне загадалі ехаць у РАУС.

> **– Я пытаюся: «На якой падставе?». А даішнік глядзіць на багажнік маёй машыны і адказвае: «На падставе вашых дзіўных сцягоў».**

### Патэлефанавала маме і сказала, што з дачкой у міліцыі з-за сцяга

У РАУС кіроўца паехала не супраціўляючыся. Адзінае, папрасіла заехаць да мамы, каб пакінуць дзіця. Але даішнікі сказалі, што ў РАУС надоўга не затрымаюць: хвілін на 15-20. Ілона расказала, што на яе ўжо адзін раз складалі пратакол за ўдзел у шэсці 30 жніўня. Тады, сапраўды, было нядоўга.

> **– Мы пад'ехалі да РАУС. Склалі пратакол агляду аўтамабіля. Даішнікі папрасілі мяне дастаць і аддаць сцяг. Я гэта зрабіла. Даішнік узяў сцяг і некалькі хвілін так і стаяў: з разгорнутым бел-чырвона-белым сцягам каля будынка РАУС, – працягвае суразмоўца.**

У РАУС маме з сямігадовай дачкой сказалі пачакаць, пакуль вызваліцца супрацоўнік. Чаканне зацягнулася больш чым на гадзіну. Ад гэтага Ілона нервавалася, але старалася займаць дачку, каб тая не спалохалася. Урэшце маму з дзіцем абшукалі, склалі ў скрыню пасведчанне кіроўцы і ключы ад машыны.

– Свайго тэлефона я не брала, таму з тэлефона дачкі ўсё ж патэлефанавала маме. Сказала, што я ў міліцыі, затрыманая з-за сцяга, і папрасіла забраць дзіця.

> **– Калі ў РАУС складалі пратакол, то даішнікі тлумачылі міліцыянеру, што затрымалі мяне за бел-чырвона-белы сцяг. Я тады сказала: «Не, так і пішыце, як мне было сказана: з-за вашых дзіўных сцягоў».**

### Крыху пра суд па першай справе

– Міліцыянер 10 красавіка быў той самы, што складаў на мяне пратакол 1 верасня за ўдзел у жніўеньскім шэсці. Тады ў мяне з сабой быў тэлефон, які я не хацела аддаваць: там жа ўсе кантакты па працы. І вось міліцыянеры кажуць: «Хавайце тэлефон, ідзе начальнік». А ў мяне – сукенка без кішэняў, схаваць няма куды. І міліцыянеры мне ціхенька дазволілі схаваць мабільнік пад дакументы на стале, – прыгадвае Ілона сваё першае затрыманне.

### У мяне ж не свастыка на машыне была

29 красавіка ў 9:30 пачаўся суд над Ілонай Пішчынскай за сцяг. Судзіла **Вікторыя Паляшчук**.

– Суд доўжыўся гадзіну. Сведкам быў даішнік, які мяне спыніў.

> **З яго паказанняў я даведалася, што 10 красавіка ў РАУС нехта паведаміў пра машыну са сцягам на вуліцы Валынца. Таму даішнікі выехалі туды і чакалі мяне. Падумалася тады: «Во якія ў нас свядомыя грамадзяне».**

За некалькі дзён да 29 красавіка Ілона падала ў суд пісьмовае хадайніцтва, што прыцягненне яе да адказнасці незаконнае, што Закон пра масавыя мерапрыемствы супярэчыць Канстытуцыі, спасылалася на міжнародныя прававыя дакументы. Была ад яе таксама скарга ў пракуратуру на незаконнае затрыманне і на тое, што забралі сцяг. Суддзя ўсё прачытала на пасяджэнні, але сцяг не вярнулі.

– Я старалася пераканаць суд. Казала пра тое, што сцяг у машыне – гэта мая асабістая думка, якую, па Канстытуцыі, я маю права выказваць. Пра тое, што бел-чырвона-белы сцяг яшчэ не так даўно быў дзяржаўным, што гэта наша гісторыя і Лукашэнка даваў пад ім прысягу. І пра тое, што герб Пагоня, які быў на маім сцягу, унесены ў спіс гісторыка-культурнай спадчыны. І ўвогуле, у мяне ж не свастыка была ў машыне, – дзеліцца Ілона.

**У выніку маладзечанку прызналі вінаватай у тым, што яна праводзіла пікетаванне, і прысудзілі штраф у 150 базавых, а гэта 4 350 рублёў.**

– Я, канешне, усяго чакала. Ну 45 базавых, ну 50. Але штрафу такога памеру нават у думках не было.

### Крыўдна нават не ад памеру штрафу

Ілона прызнаецца: і па першай, і па другой справе будзе абскарджваць прыгаворы ва ўсіх інстанцыях пачынаючы з абласнога суда і заканчваючы Вярхоўным. А пасля, магчыма, звернецца і ў міжнародныя арганізацыі.

– Крыўдна нават не ад памеру штрафу, а ад таго, што ты, нават прафесійна ведаючы законы, не можаш нічога зрабіць. Дарэчы, калі ў 2010 годзе я паступіла вучыцца ў Беларускі інстытут правазнаўства, на адной з самых першых лекцый выкладчык сказаў нам: «Будзьце гатовыя да таго, што законы ў нас ёсць, толькі яны не працуюць». Але я іду законным шляхам, абскарджваю прыгаворы, збіраю ўсе паперы з прозвішчамі і пасадамі ў папку. І лічу, што некалі гэтыя дакументы абавязкова спатрэбяцца.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# субота, 22 мая

## Беларусь 1

**6.10, 21.55** Х/ф **«РАДУГА В ПОДНЕБЕСЬЕ».**
**8.00** Існасць [СТ].
**8.30** Смысл жизни.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».
**9.55** Здоровье [СТ].
**10.45** Дача.
**11.20** «Повод есть».
**12.10** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ЯЗЫКЕ ЦВЕТОВ».**
**14.10** Женщины и спорт.
**15.10** Краіна.
**15.40** Истории спасения.
**16.15, 19.25** Х/ф **«ДОЛГАЯ ДОРОГА К СЧАСТЬЮ».**
**19.00** «Вопрос номер один».
**21.00** Панорама.
**21.40** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**
**1.45** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 17.25** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**10.00** Анимация для всей семьи «Приключения Флика».
**11.30** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**12.20** «Камень, ножницы, бумага».
**12.55** «На неделю».
**13.45** Х/ф **«ДНЕВНИКИ ПРИНЦЕССЫ 2: КАК СТАТЬ КОРОЛЕВОЙ».**
**15.45** Х/ф **«АЛЬФА».**
**17.30** Галактическая сага «Звездные войны: Эпизод VIII — Последний Джедай».
**20.05** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**22.35** Х/ф **«ЗАКАТ».**

## Беларусь 3

**7.30** «Сіла веры».
**8.00, 14.00** Навіны культуры.
**8.20** «Оранжевое горлышко». Мультфільм.
**8.40** «Каштоўны падарунак». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Жывая спадчына».
**10.25** «Беларуская кухня». Мяшанка.
**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**11.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм восьмы «На далёкім памежжы» [СТ].
**13.35** «Навукаманія».
**14.20** «Укол парасонам». Мастацкі фільм.
**15.55 Т/ф «СІЛЬВА».**
**17.55** «Залатое цяля». Мастацкі фільм.
**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — пісьменнік Яўген Хвалей.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Балада пра салдата». Мастацкі фільм [СТ].
**22.35** «Ржэў. 500 дзён у агні». Дакументальны фільм.
**23.30** «Песні вайны». Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».
**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».
**10.25** Премьера ОНТ: «Утро вечера мудренее».
**11.00** «На дачу!» с Наташей Барбье.
**12.00** «Видели видео?».
**14.15** Х/ф **«БАЛЛАДА О СОЛДАТЕ».**
**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.
**17.45** Премьера. «Сегодня вечером».
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** Концерт Льва Лещенко.
**22.55** Х/ф **«НЕВЕСТА МОЕГО ДРУГА».**

## СТВ

**6.30** «Пища богов».
**8.10** «Анфас».
**8.30** «Самая полезная программа».
**9.30** «О вкусной и здоровой пище».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.00** «Неизвестная история».
**12.00, 13.40, 16.40** Т/с **«ГЕНИЙ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**20.20** «СТВ-спорт».
**20.30** Документальный спецпроект.
**22.05** «Территория заблуждений».
**23.10** Т/с **«ПОДКИДНОЙ».**

## Мир

**5.00** Х/ф **«ПОДКИДЫШ».**
**5.50, 6.15, 8.10, 4.50** Мультфильмы.
**6.00** «Всё, как у людей».
**7.10** «Игра в слова». с Антоном Комоловым.
**8.25** «Рожденные в СССР». К 100-летию А. Сахарова.
**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».
**10.00** Погода в Мире.
**10.10** Х/ф **«ЖЕСТОКИЙ РОМАНС».**
**13.20** Х/ф **«ЖЕНИТЬБА БАЛЬЗАМИНОВА».**
**15.15, 16.15** Х/ф **«ФОРМУЛА ЛЮБВИ».**
**16.00, 19.00** Новости.
**17.25, 19.15** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА».**
**23.25** Х/ф **«ИГРА В ЧЕТЫРЕ РУКИ».**
**1.20** Х/ф **«КОРОЛЬ ГОВОРИТ».**
**3.20** Х/ф **«ЦИРК».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05, 6.55** Сегодня. Главное.
**6.20** «Дача».
**7.10** «50 рецептов первого».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.45** Один день.
**9.20** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** «Сломать стереотипы».
**10.40** «Главная дорога».
**11.15** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**12.00** Квартирный вопрос.
**13.00** Истории спасения.
**13.30** «Поедем, поедим!».
**14.05** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ СОКРАТА». ФИЛЬМ «ПРОКЛЯТИЕ ЭДВАРДА МУНКА».**
**16.20** «Секрет на миллион».
**18.10** «Следствие вели…».
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**19.55** «Ты не поверишь!».
**21.00** Т/с **«ПЯТЬ МИНУТ ТИШИНЫ. НОВЫЕ ГОРИЗОНТЫ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».
**9.30** «Специальный репортаж».
**9.55** «Тайны Беларуси».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.30** «В людях».
**12.15** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**13.20** ПРЕМЬЕРА. «Доктор Мясников».
**14.20** Х/ф **«СЕРДЦЕ БЕЗ ЗАМКА».**
**16.20** Х/ф **«ПОД ЗНАКОМ ЛУНЫ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«КОРОЛЕВА ДОРОГ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.50** Прощай, детка, прощай. **8.10, 4.10** Васаби. **9.50** Солт. **11.30** Один день. **13.25** Девушка из Джерси. **15.10, 0.25** Как отделаться от парня за 10 дней. **17.10** Двое: Я и моя тень. **19.00** Отец невесты. **20.45** Отец невесты 2. **22.40** С любовью, Рози. **2.15** Семь жизней.

### TV1000 ACTION

**5.35** Каратель. **7.30** Красная жара. **9.15** Девять ярдов. **10.55** Девять Ярдов 2. **12.35** Чужой. **14.35** Чужие. **17.00** Чужой 3. **19.00** Чужой: Воскрешение. **20.50** Прометей. **23.00** Чужой: Завет. **0.55** Соната. **2.15** Звонок. **4.00** Звонок 2.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.05** 30 свиданий. **6.35** Географ глобус пропил. **8.35** Ирония судьбы. Продолжение. **10.25, 2.55** Блокбастер. **11.55** Про любоff. **13.55** Кухня. Последняя битва. **15.55** Гуляй, Вася! **17.35** Гуляй, Вася! Свидание на Бали. **19.15** Особенности национальной охоты. **21.05** Особенности национальной рыбалки. **22.50** Особенности национальной охоты в зимний период. **0.10** Ржевский против Наполеона. **1.30** Наша Russia. Яйца Судьбы. **4.15** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.30, 10.15, 11.00, 12.00** Т/с **«КАСЛ». 12.45** Х/ф **«СВОРА». 14.45** Х/ф **«СТРАШНЫЕ ИСТОРИИ ДЛЯ РАССКАЗА В ТЕМНОТЕ». 16.45** Х/ф **«МОГУЧИЕ РЕЙНДЖЕРЫ». 19.00** Х/ф **«МАРСИАНИН». 22.00** Х/ф **«СВЕРХНОВАЯ». 23.45** Х/ф **«ЗАТУРА: КОСМИЧЕСКОЕ ПРИКЛЮЧЕНИЕ». 1.30, 2.15, 3.00** «Мистические истории». **4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«БЛИЗКИЕ ЛЮДИ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ЯЩИК ПАНДОРЫ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ТАТЬЯНИНА НОЧЬ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«АДВОКАТЕССЫ». 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ЗАПАСНОЙ ИНСТИНКТ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10, 13.05** Х/ф **«СОБЛАЗНИТЕЛЬ 2». 3.35** Х/ф **«ДРУЖБА И НИКАКОГО СЕКСА?». 5.20** Х/ф **«ПЫШКА». 7.25** Х/ф **«ПЛОХОЙ САНТА». 9.05** Х/ф **«ПЛОХОЙ САНТА 2». 10.45** Х/ф **«СОБЛАЗНИТЕЛЬ». 15.20** Х/ф **«ВАМ ПИСЬМО». 17.35** Х/ф **«ЛЮБИМЦЫ АМЕРИКИ». 19.30** Х/ф **«ВСЕГДА ГОВОРИ «ДА». 21.20** Х/ф **«ТЫ УМЕЕШЬ ХРАНИТЬ СЕКРЕТЫ?». 23.10** Х/ф **«СУТЕНЕР».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.30, 8.55, 9.55, 10.55, 11.55, 13.00, 14.00, 14.55, 16.00, 17.00, 18.05, 19.10, 20.15, 21.15, 22.20, 23.30** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ». 1.30, 2.35, 3.50, 4.50, 5.50** Т/с **«КОМИССАРША». 6.50** Т/с **«НЕВИДИМКА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 2.45** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Т/с **«ПОГНАЛИ». 13.30, 21.00, 3.35** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.00** Х/ф **«ЗАЛОЖНИКИ». 17.00** Х/ф **«ХЭППИ-ЭНД». 19.05** Фэнтези «ЧУДО-ДЕТКИ: НЕПУТЁВЫЕ ВОЛШЕБНИКИ». **22.35** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АМЕРИКАНЦА В АРМЕНИИ». 0.30** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ПОЭЗИЯ». 5.15** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Чемпионат Европы по водным видам спорта. Плавание. **8.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. Барнаул. **9.50** Хоккей. Чемпионат мира. Беларусь – Словакия. **11.35** Большой спорт. **12.20** Баскетбол. Чемпионат Беларуси. Финал. Мужчины. Третий матч.Борисфен (Могилев)- Цмокі-Мінск. **14.10** Вот это спорт! **14.30** Гандбол. Кубок Беларуси. Женщины. Финал. **16.10** Спорт-центр. **18.30** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 10-й тур. Рух (Брест) – Неман (Гродно). В перерыве Спорт-центр. **20.15** Хоккей. Чемпионат мира. Чехия – Швейцария. В перерыве Спорт-центр. **22.35** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 10-й тур. Обзор. **23.20** Чемпионат Европы по водным видам спорта. Плавание. Вечерняя сессия. **1.25** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.

### EUROSPORT

**0.00** Велоспорт. «Тур Андалусии». Четвертый этап. **1.00, 4.00, 7.00, 9.30, 11.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 13-й этап. **2.30, 5.30, 8.00, 10.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Финал. **12.25** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 14-й этап. **18.30** Велоспорт. «Тур Андалусии». Пятый этап. **19.30** Конный спорт. Global Champions Tour. Мадрид. Конкур. **21.45** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Финал. **23.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 13.40, 1.30** Мото тест-драйв. **6.15, 9.30, 11.50, 14.30, 18.00, 22.30, 0.30, 2.50** Итоговые новости. **6.30, 17.00** Под микроскопом. **6.45, 7.25** Куда уходит детство. **6.55, 7.35, 17.40, 18.45** Дома на колесах. **7.10, 18.20** Под микроскопом. **7.50** Советы для каждого. **8.20, 9.50** Мото. Вторые руки. **8.55** Испытание на прочность. **10.25** Комплектация. **10.55** Автолайф. **11.15, 19.30, 22.50, 3.35** Автомобильные музеи мира. **12.05, 20.05, 23.45, 4.05** Вечер с Пикуленко. **12.55, 0.50** От Кавказа до Аравии. **13.30, 1.20** Обновление. **13.55, 14.55, 1.45** Тест на «Драйве». **15.25, 20.55, 4.50** Эконом-тест. **15.45** Кругосветка по бездорожью. **16.15, 21.45, 5.20** Советы юриста. **17.30, 18.35, 19.25** Наезд! **19.05, 23.25** Вторичка. **21.15, 5.05** Легенды автопрома. **3.05** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.20, 16.35, 17.20, 1.20, 2.10, 2.55, 3.45, 4.30** Австралийские золотоискатели. **9.05, 9.55, 10.45, 11.35, 12.25, 13.15, 14.05, 14.55, 15.45** Ржавые тачки на прокачку. **18.05** Винтажные электромобили. **18.55** Снос в Австралии. **19.45** Бирюзовая лихорадка. **20.30, 21.20** Речные чудовища. **22.15** Чудовищный карп. **23.25, 23.50, 0.15, 0.50** Австралийские ловцы быков. **5.15** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.10, 5.35** Невероятные изобретения. **6.35, 7.15, 7.55, 4.55** Расшифровка тайн. **8.40, 9.30, 10.20, 12.55, 13.45, 1.35, 2.25** Очень странные экспонаты. **11.05, 12.05, 21.55, 22.50** Невидимые города Италии. **14.35, 15.40** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **16.30, 17.20** Расшифрованные сокровища. **18.10, 19.05, 20.00** Тайная история рыцарей Храма. **21.00** Сканирование Нила. **23.45, 0.40** Древние суперстроения. **3.15, 4.05** Карты убийства.

### NATURE

**6.00, 6.45, 7.30, 8.15, 9.00, 9.45, 10.30, 11.20, 12.05, 12.50, 19.45, 20.30, 21.15** Ветеринар из Йоркшира. **13.35, 14.30** Когда киты ходили по суше. **15.25** Нераскрытое дело динозавра. **16.10, 17.05, 17.55** Нил: величайшая из рек. **18.50** Мадагаскар, африканский Галапагос. **22.00** Опасная Земля. **22.55, 23.45, 0.35** Взрывная Земля. **1.25** Невероятные встречи с животными. **2.10** Мутации погоды. **3.00** Выживание в дикой природе. **3.50** В зоопарке Таронга. **4.35** Постыдные проблемы питомцев. **5.00** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Авто-SOS. **6.45, 7.10** Сделать за один день. **7.35** Машины:Разобрать и продать. **8.25, 9.15** Панорама 360. **10.05, 10.55** Дикий тунец: Север против Юга 6. **11.50, 12.40** Необычные промыслы. **13.25, 14.20** Скрытые жемчужины Турции. **15.05, 15.55, 16.45** Настоящий гений со Стивеном Хокингом. **17.35, 18.25, 19.15, 20.10** Расследование авиакатастроф. **21.00** Самые лучшие суперкары. **21.50** Настоящий суперкар. **22.40** Машины: разобрать и продать. **23.30, 0.20, 1.05** Космос: Пространство и время. **1.50, 2.35** Эвакуация Земли. **3.20, 4.10** Антарктика. **5.00** Суперсооружения Третьего рейха. **5.35** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.10, 11.00, 12.05, 13.10, 14.00, 15.05, 16.00, 17.05, 17.55, 19.00, 20.05, 21.15, 22.25, 23.15, 0.00, 1.10, 1.55, 2.55, 3.55, 5.00** Рыбалка без границ. **6.30, 7.30, 8.35, 9.40, 11.30, 12.40, 13.45, 14.35, 16.30, 17.35, 18.30, 19.35, 20.40, 21.50, 23.45, 0.35, 2.25, 3.25, 4.30, 5.30** Дело вкуса. **6.45, 7.40, 8.50, 9.50, 10.40, 11.45, 12.55, 14.50, 15.40, 16.45, 18.45, 19.50, 20.55, 22.05, 22.55, 0.55, 1.40, 2.40, 3.40, 4.45, 5.45** Рецепты Древней Колхиды. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.50** Доктор смузи. **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 15.05, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.35, 19.35, 23.40, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Детская мастерская. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Милости просим. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Жизнь в деревне. **11.00** Секреты стиля. **12.40** Сельсовет. **2.05** Особый вкус.

## Беларусь 1

**5.50** Слово Епископа Казимира Великосельца на праздник Пятидесятницы.

**6.00** Х/ф **«РАДУГА В ПОДНЕБЕСЬЕ».**

**7.55** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Маршрут построен.

**11.30** «Вопрос номер один».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ЯЗЫКЕ ЦВЕТОВ».**

**14.25** Один день.

**15.15** Вокруг планеты.

**15.55** «Повод есть».

**16.30** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**

**16.45, 19.10** Х/ф **«ПТИЧКА ПЕВЧАЯ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.30** Х/ф **«ДОЛГАЯ ДОРОГА К СЧАСТЬЮ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.30** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** Т/с **«ТИМОН И ПУМБА».**

**10.25** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**11.15** Х/ф **«АЛЬФА».**

**13.00** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**13.55** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.30** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.25** Х/ф **«ЗЕМЛЯ БУДУЩЕГО».**

**20.05** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**22.30** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.25** Навіны культуры.

**8.20** «Укол парасонам». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.20** «Беларуская кухня». Запяканка з рыбы.

**10.50** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.40** «Народны майстар». Анатоль Туркоў (разьбярства, драўляная пластыка).

**12.10** «Балада пра салдата». Мастацкі фільм [СТ].

**13.35** «Ржэў. 500 дзён у агні». Дакументальны фільм.

**14.45** «Залатое цяля». Мастацкі фільм.

**17.15** «Кадры жыцця». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Радзівілаў.

**18.05** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**18.20** «Дзяржаўная граніца». Фільм восьмы «На далёкім памежжы» [СТ].

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Каштоўны падарунак». Мастацкі фільм [СТ].

**22.25** П.І.Чайкоўскі. «Шчаўкунок». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** Премьера. «Доктора против интернета».

**10.35** «Видели видео?».

**12.20** Т/с **«ЖЕНИТЬ НЕЛЬЗЯ ПОМИЛОВАТЬ».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**17.50** Юбилейный вечер Юрия Николаева.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Dance Революция». Новый сезон.

**23.05** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.25** Владимир Познер и Иван Ургант в проекте «В поисках Дон Кихота».

## СТВ

**6.00, 0.05** «Пища богов».

**8.15** Документальный проект.

**9.05** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Знаете ли вы что?».

**12.00, 13.40, 16.40** Т/с **«ГЕНИЙ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.05** Документальный спецпроект.

**22.35** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**6.35** Х/ф **«ЧИСТОЕ НЕБО».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви». К юбилею Г. Чухрая.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«СЫН ОТЦА НАРОДОВ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**2.00** Х/ф **«ИСЧЕЗНУВШАЯ ИМПЕРИЯ».**

**3.50** Х/ф **«ВРАТАРЬ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.50** «Первая передача».

**11.20** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.05** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ СОКРАТА». ФИЛЬМ «ЧИСТЫЙ ЛЕД».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** Премьера. «Ты супер! 60+».

**22.15** «Звезды сошлись».

**23.30** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Дмитрий Певцов, Данила Козловский и Алина Сергеевав фильме «Покушение».

**10.35** ПРЕМЬЕРА. «Большая переделка».

**11.40** Х/ф **«СЛЕЗЫ НА ПОДУШКЕ».**

**15.05** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**16.45** Х/ф **«ДОБЕЖАТЬ ДО СЕБЯ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.30** Х/ф **«ПРИЗРАК».**

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.40** Двое: Я и моя тень. **7.15** Двойная жизнь Чарли Сан-Клауда. **9.00** С любовью, Рози. **10.45** Испанский-английский. **13.05** Отец невесты. **15.00** Отец невесты 2. **16.50** Мумия. **19.00** Мумия возвращается. **21.10** Мумия: Гробница Императора Драконов. **23.00** Царь Скорпионов. **0.40** Инопланетное вторжение: Битва за Лос-Анджелес. **2.30** Обливион.

### TV1000 ACTION

**5.45** Ускорение. **7.20** Стрелок. **9.25** Каратель. **11.30** Чужой: Воскрешение. **13.20** Прометей. **15.30** Чужой: Завет. **17.30** Наркоз. **19.00** 1408. **20.45** Мгла. **22.55** Монстры. **0.30** Женщина в чёрном. **2.00** Женщина в чёрном 2: Ангел смерти. **3.35** Соната.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.00** Особенности национальной охоты. **7.45** Особенности национальной рыбалки. **9.35** Особенности национальной охоты в зимний период. **11.00** Мужчина с гарантией. **12.35** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу. **14.25** Наша Russia. Яйца Судьбы. **16.00, 2.15** Ржевский против Наполеона. **17.35** Невеста любой ценой. **19.25** Спасите Колю! **23.00** Жизнь впереди. **0.35** Выше неба. **3.35** Ёлки 5.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **8.15** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **9.30, 10.15, 11.15** Т/с **«КАСЛ». 12.00** Х/ф **«УЖАСТИКИ: БЕСПОКОЙНЫЙ ХЭЛЛОУИН». 14.00** Х/ф **«ЗАТУРА: КОСМИЧЕСКОЕ ПРИКЛЮЧЕНИЕ». 16.00** Х/ф **«МАРСИАНИН». 19.00** Х/ф **«ПОЛ: СЕКРЕТНЫЙ МАТЕРИАЛЬЧИК». 21.00** Х/ф **«ТЕПЛО НАШИХ ТЕЛ». 23.00** Х/ф **«ЗНАКОМЬТЕСЬ: ДЖО БЛЭК». 2.15** Т/с **«БАШНЯ». 3.15, 4.15, 5.00** Т/с **«БАШНЯ. НОВЫЕ ЛЮДИ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЗАПАСНОЙ ИНСТИНКТ». 12.00, 20.00** Т/с **«ЯЩИК ПАНДОРЫ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ТАТЬЯНИНА НОЧЬ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«АДВОКАТЕССЫ». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК». 4.00** Т/с **«НИКА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50, 23.10** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 3.20** Х/ф **«БИБЛИОТЕКАРЬ: В ПОИСКАХ КОПЬЯ СУДЬБЫ:». 5.05, 13.55** Х/ф **«ЗАМУЖ НА ДВА ДНЯ». 7.05** Х/ф **«ГОД СВИНЬИ». 8.30** Х/ф **«ЛЮБИМЦЫ АМЕРИКИ». 10.25** Х/ф **«ИБИЦА». 12.00** Х/ф **«СУПРУГИ МОРГАН В БЕГАХ». 15.55** Х/ф **«ДЕЖУРНЫЙ ПАПА». 17.40** Х/ф **«ДОМАШНЕЕ ВИДЕО». 19.30** Х/ф **«ПЫШКА». 21.30** Х/ф **«ЗЛОВЕЩИЕ МЕРТВЕЦЫ 3: АРМИЯ ТЬМЫ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ». 2.15, 3.30, 4.30, 5.30** Т/с **«КОМИССАРША». 6.30** Т/с **«ПАСТЫРЬ». 8.00, 8.55, 9.55, 10.55** Т/с **«ЯЛТА-45». 11.50, 12.50, 13.50, 14.50, 15.55, 16.55, 17.50, 18.50** Т/с **«ГОГОЛЬ». 19.50, 20.40, 21.35, 22.30** Т/с **«ЛЕГЕНДЫ О КРУГЕ». 23.20** Т/с **«НЕВИДИМКА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 1.40** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«ВЕЗУЧИЙ СЛУЧАЙ». 14.30** Т/с **«ПОГНАЛИ». 16.00, 21.00, 0.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **17.30** Х/ф **«SUPERНЯНЬ». 19.10** Х/ф **«SUPERНЯНЬ 2». 22.35** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **1.10** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.30** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.40** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.40** Теннис. WTA. Парма. Финал. **8.30** Гребля на байдарках и каноэ. Кубок мира. Барнаул. **9.35** Теннис. WTA. Белград. Финал. **11.45** Пит-стоп. **12.20** Баскетбол. Чемпионат Беларуси. Финал. Мужчины. Четвертый матч.Борисфен (Могилев) – Цмокі-Мінск. **14.10** Чемпионат Европы по водным видам спорта. Плавание. **15.35** Спорт-центр. **15.45** Хоккей. Чемпионат мира. Превью. **16.05** Хоккей. Чемпионат мира. Беларусь – Швеция. **18.40** Футбол. Кубок Беларуси. Финал. Превью. **19.00** Футбол. Кубок Беларуси. Финал. БАТЭ (Борисов) – Ислочь (Минский р-н). **21.00** Хоккей. Чемпионат мира. Канада – США. 2-й и 3-й период. В перерыве Спорт-центр. **22.35** Итоги недели. **23.20** Чемпионат Европы по водным видам спорта. Плавание. Вечерняя сессия.

### EUROSPORT

**0.00** Велоспорт. «Тур Андалусии». Пятый этап. **1.00, 4.00, 7.00, 9.30, 13.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 14-й этап. **2.30, 5.30, 8.00, 12.15** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Финал. **10.30** Автогонки. Суперкубок Porsche. Монца. **11.15, 11.25, 22.00** Автогонки. Суперкубок Porsche. Монако. **14.15, 20.00** Велоспорт. «Джиро д'Италия». 15-й этап. **18.15** Велоспорт. «Тур Мурсии». **22.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Финал.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 13.40, 0.40** Мото тест-драйв. **6.15, 17.15** Под микроскопом. **6.40, 7.25, 17.40, 18.55** Дома на колесах. **6.55, 18.10** Советы для каждого. **7.40, 10.30, 12.45, 16.10, 18.40, 22.40, 1.30, 3.50** Итоговые новости. **7.50** Мото. Вторые руки. **8.25** Испытание на прочность. **9.00, 10.45** Все включено. **9.35** Вторичка. **9.55** Комплектация. **11.20, 19.30, 23.00, 3.20** Автомобильные музеи мира. **11.55, 20.05, 23.55, 4.05** Вечер с Пикуленко. **13.00, 1.00** От Кавказа до Аравии. **13.35, 22.35** Обновление. **14.05, 14.55, 1.45** Тест на «Драйве». **14.35, 21.00, 4.50** Эконом-тест. **15.30, 5.05** Легенды автопрома. **16.30, 21.50** Советы юриста. **17.25** Куда уходит детство. **17.55** Наезд! **19.15, 23.35, 5.45** Автолайф. **21.20, 5.20** Кругосветка по бездорожью. **2.50** Сити-тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35, 9.25** Речные чудовища. **10.20** Винтажные электромобили. **11.05** Снос в Австралии. **12.00, 23.00** Бирюзовая лихорадка. **12.45, 13.35, 14.20, 15.10, 15.55, 16.45, 17.30, 18.20, 19.05, 19.55, 20.40, 21.30, 22.15** Австралийские золотоискатели. **23.50, 0.40, 1.25, 2.15, 3.00, 3.45, 4.35** Ледовые викинги. **5.20** Рыбалка со звездами.

### HISTORY

**6.15** Невероятные изобретения. **6.35, 7.15, 8.00, 5.00** Расшифровка тайн. **8.45, 9.30, 10.20, 14.55, 15.45, 1.45, 2.30** Очень странные экспонаты. **11.10, 12.15** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **13.05, 14.00, 17.30** Невидимые города Италии. **16.30** Сканирование Нила. **18.25** Падение империи. **19.15** Последний поход викингов. **20.10** Восход Османской империи. **21.00** Загадка троянского коня. **22.00, 22.55** Тайны египетских пирамид. **23.50, 0.45** Древние суперстроения. **3.20, 4.10** Карты убийства.

### NATURE

**6.00, 6.50, 7.40** Удивительное семейство псовых. **8.35, 9.30** Как собаки и кошки захватили мир. **10.25, 11.20** Когда киты ходили по суше. **12.15** Нераскрытое дело динозавра. **13.00, 13.55** 24 часа на Земле. **14.45** Опасная Земля. **15.40, 16.30, 17.20** Жизнь: первые шаги. **18.15** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб. **19.05** Исчезающие цари – львы пустыни Намиб II. **20.00, 20.50, 21.45, 22.35, 23.25** Речные чудовища. **0.20, 1.05** Невероятные встречи с животными. **1.55** Мутации погоды. **2.40** Выживание в дикой природе. **3.35** В зоопарке Таронга. **4.20** Постыдные проблемы питомцев. **4.45** Подработка в дикой глуши. **5.30** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Необычные промыслы. **6.35, 6.55** Сделать за один день. **7.20** Машины:Разобрать и продать. **8.15, 9.00** Панорама 360. **9.55, 10.45** Дикий тунец. **11.40, 12.35** Activate: глобальное гражданское движение. **13.25, 14.15, 15.05, 15.55, 16.45** Исследователь 2. **17.35, 18.25, 19.15, 20.10** Затерянные сокровища Майя. **21.00** Служба безопасности аэропорта: Рим. **21.50, 22.40** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **23.30** Граница. **0.15, 1.05** Прорыв. **2.00, 2.45, 5.00** Авто-SOS. **3.30, 4.15** Национальные парки Америки. **5.45** Научные глупости.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.50, 22.05, 2.10** Андрей Старков и его команда. **6.30, 10.20, 18.25, 22.35, 2.40** Сам себе охотник. **7.00, 10.50, 14.45, 19.00, 23.10, 3.10** Нахлыст без границ. **7.30, 11.20, 15.20, 19.25, 23.40, 3.40** Мир рыболова. **8.00, 17.25, 4.05** Рыбалка 360. **8.30, 12.25, 16.20, 20.30, 4.35** Рыболовная школа для взрослых. **9.00, 12.55, 16.50, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 1.45, 5.30** Готовим на природе. **11.50, 15.50, 20.00** Рыболовные путешествия. **13.25, 21.35, 0.10** Рыбалка сегодня XL. **14.00, 17.55** Ружейная охота. Первые шаги. **14.30** Кодекс охотника. **21.00** На рыбалку с охотой. **0.40** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **1.55, 5.45** Давай зарубимся!

**Усадьба**

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.50** Доктор смузи. **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.00, 15.05, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.35, 15.35, 19.35, 23.40, 3.50** Идеальный сад. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Детская мастерская. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Милости просим. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Жизнь в деревне. **2.05** Особый вкус.

# Як пілоты-аматары з Вілейшчыны пераляцелі Атлантыку на самалёце

ВІЛЕЙКА

**Вы ведалі, што браты Адамовічы з Вілейшчыны былі першымі выхадцамі з міжваеннай Польшчы, якія праляцелі над Паўночнай Атлантыкай?**


Фота з Вікіпедыі.

Адамовічы (па краях) на прыёме ў гарадской Радзе Варшавы. Ліпень, 1934 год.

### Як Адамовічы з Вілейшчыны трапілі ў Бруклін

**Баляслаў** (1896) і **Юзаф** (1893) **Адамовічы** нарадзіліся на Віленшчыне, у вёсцы Янкоўшчына Вілейскага павета, каля Альковічаў. Па прыкладзе старэйшага брата **Браніслава**, які ў 1904 годзе збег з прызыву ў царскую армію, яны таксама эмігравалі ў ЗША да Першай сусветнай вайны. Гэта здарылася не з-за галечы: у іх бацькі была добрая гаспадарка, дзе працавалі «два парабкі, дзве дзяўчыны і пастух». Так успамінаў пасля Баляслаў у сваёй кнізе «Праз Атлантыку», выдадзенай у 1934 годзе.

Браты сталі жыць і працаваць у Брукліне рабочымі. Юзаф – на цукровым заводзе, разам са старэйшым Браніславам, а малодшы Баляслаў працаваў спачатку на спружынным заводзе, а потым на мылаварным. Яны атрымлівалі заробак – па пяць долараў за тыдзень працы.

### Зацікавіліся авіяцыяй

У 1918 годзе Баляслаў і Юзаф Адамовічы, якія да гэтага часу сталі Бэнам і Джо, заснавалі ў Нью-Ёрку ўласную справу. Гэта была невялікая фабрыка халодных напояў у бутэльках. Бізнес ішоў настолькі добра, што браты пабудавалі побач з фабрыкай чатырохпавярховы дом з некалькімі кватэрамі, якія здавалі ў арэнду.

У 1928 годзе браты ўпершыню ў жыцці як турысты-пасажыры праляцелі на невялікім самалёце. З гэтага часу пачалося іх захапленне авіяцыяй. Яны набылі ўласны вучэбны біплан маркі «Вако» (рэгістрацыйны нумар NC 1868) за 3400 долараў і былі поўныя рашучасці навучыцца лётаць. Моцнаму жаданню не перашкаджалі няшчасныя выпадкі. Аднойчы самалёт перастаў працаваць у паветры і зваліўся з вышыні 30 метраў. Непрытомны Юзаф не мог выйсці з машыны сам. «Хуткая дапамога» прыбыла неадкладна. Па ўспамінах у кнізе, Юзафу дактары далі шмат гарэлкі. І гэта відавочна прынесла яму карысць, мужчына апрытомнеў.

### Без тэарэтычнай падрыхтоўкі і грошай паляцелі праз акіян

Нягледзячы на тое, што абодва браты былі толькі аматарамі ў галіне пілатажу, у 1934 годзе, не маючы тэарэтычнай падрыхтоўкі, яны вырашылі паспрабаваць пераляцець Атлантычны акіян. Аб неабачлівасці братоў сведчыць той факт, што яны набылі новы самалёт «Беланка», пазбавіўшыся акцый сваёй прыбытковай фабрыкі газіроўкі. На гэта яны выдаткавалі ўсе грошы – 22 тысячы долараў. І ўжо не маглі дазволіць сабе іншыя, неабходныя для пілотаў, прылады – радыёстанцыю, аўтаматычнага пілота альбо астракупал. На корпусе самалёта быў намаляваны польскі герб – Белы арол. А таксама па-англійску было напісана «Горад Варшава» і «Нью-Ёрк - Варшава».

Браты пакінулі Нью-Ёрк практычна без грошай. Калі высадзіліся на востраве Ньюфаўндленд, адкуль павінны былі вылецець у Варшаву, у кішэні ў іх засталося 15 долараў. Ежы таксама было няшмат. Жонка Баляслава зрабіла ім у дарогу бутэрброды, запакавала апельсіны, а на востраве нехта з мясцовых даў запечаную курыцу.

Далей адправіліся раніцай 29 чэрвеня. Пасля некалькіх гадзін няспешнага палёту пачаліся праблемы. Спачатку айсбергі ў акіяне знізілі тэмпературу паветра да такой ступені, што бартавыя прыборы пакрываліся інеем, а абледзянелыя крылы самалёта цягнулі яго ўніз. Юзаф, які вёў дзённік, тады напісаў: «Божа, памілуй нас». Пасля некалькіх гадзін шторму браты здолелі праляцець над аблокамі, на вышыню каля чатырох тысяч метраў.

Пасля 11 гадзін палёту браты заўважылі, што ў адным з бакаў цячэ паліва. Дзякуючы аварыйнаму рэзерву, запампавалі паліва ў асноўныя рэзервуары. 30 чэрвеня, прыблізна праз 20 гадзін палёту, яны ўбачылі бераг Еўропы, але не ведалі, дзе знаходзяцца. Калі набягалі хмары і туман, браты ляцелі на ўсход яшчэ тры гадзіны, далей ад зямлі.

Скарыстаўшыся палепшанай бачнасцю і не здолеўшы знайсці ніводнага горада, Адамовічы прызямліліся на выпадковым невялікім лузе, пераскочыўшы статак кароў. Як аказалася, яны апынуліся каля горада Флёры-сюр-Орн у Францыі. Браты скарысталіся гасцінасцю французаў, і на наступны дзень, пасля рамонту хваставога кола, якое было пашкоджанае падчас пасадкі, аднавілі палёт у Варшаву.

З-за таго, што скончылася паліва, яны прызямліліся ў Германіі каля польскай мяжы. Толькі на наступны дзень яны вылецелі на далейшы рэйс, але з-за памылкі ў курсе прызямліліся ў Торуні. У Варшаву ўжо ляцелі ў кампаніі пілота Аляксандра Аноцкі, які кантраляваў правільную навігацыю.



2 ліпеня 1934 года. Адамовічаў сустракаюць у Варшаве.

### У Варшаве пілотаў-аматараў сустракалі 17 тысяч землякоў

У аэрапорце Макотаў у Варшаве самалёт Адамовічаў прызямліўся 2 ліпеня 1934 года ў 17:00 у ганаровым суправаджэнні польскіх самалётаў.

Тут іх сустракалі 17 тысяч чалавек. Землякі прарвалі кардон паліцыі, выкралі сям'ю Адамовічаў і пранеслі на руках да машыны, упрыгожанай ружамі. Кіраўнік Варшавы Юзаф Ольпінскі ўрачыста прамовіў: «Падобна таму, як вы скарылі акіян адным скачком, такім жа чынам вы заваявалі сэрцы варшаўскага насельніцтва».

Два месяцы, якія браты правялі на радзіме, былі лепшым перыядам у жыцці. Іх прымалі па-каралеўску, размяшчалі ў лепшых гатэлях, запрашалі ў добрыя рэстараны. А ў дзясятках польскіх гарадоў іх чакалі радасныя натоўпы.

### Памерлі забытыя, у галечы

У ЗША браты вярнуліся поўныя аптымізму з амбіцыйнымі планамі на будучыню. Аднак, калі яны дабраліся да Нью-Ёрка ў пачатку кастрычніка, іх чакалі работнікі пракуратуры. На фабрыцы Адамовічаў знайшлі самагонны апарат і бочкі для закісання сусла. Па гэтай прычыне братоў асудзілі на 15 месяцаў пазбаўлення волі. Пасля вызвалення яны ніколі не вярнулі сабе рэпутацыю і грошы. Баляславу і Юзафу зноў давялося працаваць у старога знаёмага ў Брукліне, яны жылі ў танным пакоі.

А памерлі забытыя, у галечы. Юзаф – у 1970, а Баляслаў у 1979 годзе. А раней, у 1951 годзе, асобнікі іх кнігі-дзённіка «Праз Атлантыку» вывезлі з польскіх бібліятэк і падверглі цэнзуры.

**Падрыхтаваў Марэк ЛАМПРЭХТ, Варшава.**

---

● КАЛЯНДАР

14 МАЯ

**1899.** У в. Повязынь каля Радашкавічаў нарадзіўся **Тодар Куніцкі**, беларускі грамадскі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні і Беларускага сялянскага саюза. Скончыў медыцынскі факультэт універсітэта Стэфана Баторыя (1933), працаваў доктарам на Беласточчыне. У час Другой сусветнай вайны – у Вільні. Пасля вайны – у Гданьску. Памёр 5 сакавіка 1985 года.

15 МАЯ

**1905.** У газеце «Северо-Западный край» упершыню надрукаваны верш **Янкі Купалы – «Мужык»**.

16 МАЯ

**1966.** Пачатак «культурнай рэвалюцыі» ў Кітаі. На пасяджэнні палітбюро ЦК КПК прынятае адпаведнае рашэнне. «Культурная рэвалюцыя» прывяла не толькі да шырокамаштабных рэпрэсій супраць партыйнай апазіцыі, але і да ганенняў на інтэлігенцыю, разгрому КПК, грамадскіх арганізацый, нанесеная каласальная шкода культуры і адукацыі, негатыўна адбілася на знешняй палітыцы.

17 МАЯ

**1950.** У Баранавічах нарадзілася **Валерыя Навадворская**, расійская палітычная дзеячка, дысідэнт, журналіст, заснавальнік і старшыня ультра-ліберальнай партыі «Дэмакратычны саюз».



18 МАЯ

**1938.** У вёсцы Цынцавічы ля Вілейкі нарадзіўся **Міхаіл Казінец**, беларускі дырыжор, педагог, народны артыст Беларусі.



19 МАЯ

**1944.** Заснаваны Дзяржаўны літаратурны музей **Янкі Купалы**.

20 МАЯ

**1962.** У Гомелі пачаў курсіраваць тралейбус.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**





Хрушчоўка ва ўсходняй частцы Берліна да і пасля рэканструкцыі.

# Шэрыя «панэлькі», аўтамабіль – па чарзе, прадукты без дэфіцыту

## Як жылі ў ГДР

**Неяк мы рабілі інтэрв'ю з нямецкімі валанцёрамі, якія працавалі ў дзіцячым цэнтры «Надзея» на Вілейшчыне. Размова зайшла пра адрозненні паміж ФРГ і ГДР.**

Тады суразмоўцы адзначылі, што нават праз дзесяцігоддзі адрозненні ёсць. Яны праяўляюцца, перш за ўсё, у сацыяльнай галіне. На тэрыторыі ГДР заробкі і пенсіі ўсё яшчэ ніжэйшыя, чым у ФРГ. А да бежанцаў ва ўсходняй Германіі ставяцца не так цёпла, як у заходняй.

Вырашылі даведацца, чым жа ГДР адрознівалася ад ФРГ.

Германская Дэмакратычная Рэспубліка (ГДР) – сацыялістычная дзяржава, якая існавала на тэрыторыі Цэнтральнай Еўропы ад 7 кастрычніка 1949 года да 3 кастрычніка 1990 года. ГДР утварылі на месцы былой савецкай акупацыйнай зоны Германіі на тэрыторыі Усходняй Германіі праз чатыры гады пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Дзяржава перастала існаваць пасля разбурэння Берлінскай сцяны і аб'яднання Германіі ў 1990 годзе.

Мяжа паміж Федэратыўнай Рэспублікай Германіі (ФРГ) і ГДР праходзіла ад Любекскага заліву Балтыйскага мора з поўначы, далей на поўдзень і ўсход да агульных межаў з Баварыяй і Чэхаславакіяй.

### Жыллё

Усходнюю частку Германіі пасля Другой сусветнай аднаўлялі савецкія спецыялісты.

**Таму тут шмат тыповых савецкіх будынкаў. Шэрыя панэльныя пяціпавярхоўкі на тэрыторыі ГДР засталіся і сёння.**

Яны суседнічаюць з трох-, чатырохпавярховымі домікамі, тыповымі для Заходняй Еўропы і пабудаванымі на пачатку мінулага стагоддзя. У 1970 – 1980 гадах у ГДР паўсталі цэлыя мікраёны, забудаваныя тыповымі савецкімі шматпавярхоўкамі. Па ўспамінах тагачасных жыхароў, кватэры таксама былі тыповымі.

**Але адно істотнае адрозненне ўсё ж было: душ і туалет часта месціліся не ў кватэры, а паміж паверхамі.**

І былі агульнымі для ўсіх, хто жыве на дзвюх лесвічных пляцоўках.

### Прадукты

Савецкіх грамадзян, якія траплялі ў ГДР, здзіўляла наяўнасць прадуктаў і іх выбар у крамах. Па ўспамінах і фотаздымках, тут былі звычайныя прадуктовыя магазіны. Розніца была толькі ў тым, што ў Германіі прадукты сапраўды былі. У звычайным гастраноме можна было купіць два-тры гатункі сыру, кілбасы і цукерак, балгарскія і венгерскія кансервы з гародніны, рыбу і рыбныя кансервы, чай, какаву, радзей – каву, некалькі гатункаў піва, віна, моцнага алкаголю, а таксама мыла і зубную пасту. Перабоі з пастаўкай прадуктаў узніклі на нядоўгі час адразу пасля падзення Берлінскай сцяны. Жыхары прыгадвалі, што ў крамы трэба было ісці да шасці гадзін раніцы. А да дзесяці ўжо былі пустыя паліцы.

### Валютныя крамы

Важная частка гісторыі ГДР – крамы «Інтэршоп» – аналагі савецкай «Бярозкі». Тут за валюту, у першую чаргу, за маркі ФРГ, можна было нядорага купіць заходнія цыгарэты, алкаголь, касметыку, бытавую тэхніку – тое, што нельга было набыць у звычайных крамах. Валюту жыхары ГДР маглі атрымаць ад сваякоў, якія жылі ў Заходняй Германіі.

**Часта прадаўцамі ў крамах працавалі супрацоўнікі штазі, што шукалі падазроных грамадзян, якія маюць сувязі на Захадзе.**

Таксама валюту, а яшчэ джынсы, відэакасеты, заходнегерманскія часопісы можна было купіць з рук на чорным рынку.

### Транспарт

Пасля таго, як узвялі Берлінскую сцяну, цалкам змянілася дзейнасць метро і трамваяў. Рух паміж станцыямі на ўсходзе і захадзе па ініцыятыве ГДР спыніўся ў дзень узвядзення сцяны – 13 жніўня 1961 года. Шмат станцый метро аказалася на захадзе. Дзве трамвайныя лініі – на ўсходзе. Яшчэ дзве лініі метро заканчваліся і пачыналіся на захадзе, але праходзілі па ўсходняй частцы. Таму па шэсць станцый на кожнай лініі былі закрытыя амаль на 30 год.

На тэрыторыі ГДР аказаліся адразу некалькі заводаў, якія належалі канцэрнам «Фольксваген» і «Аўдзі». Яны былі нацыяналізаваныя, і гэта дазволіла выпрабляць сацыялістычныя аўтамабілі адразу пасля вайны. Маёмасныя спрэчкі з кампаніямі, што засталіся ў ФРГ, доўжыліся да пачатку 1950-х. Усходняя Германія выпускала ўсе тыпы транспарту – ад грузавікоў да ровараў. Самым папулярным аўтамабілем стаў «Трабант», выпушчаны ў 1957 годзе. Яго мадыфікавалі да сярэдзіны 1980-х. На другім месцы па папулярнасці быў «Вартбург», на трэцім – савецкая «Лада». Грузавікі, мікрааўтобусы, а таксама прадукцыю ваеннага прызначэння выпускаў завод «Робур».

**«Трабант» каштаваў крыху больш за пяць тысяч нямецкіх марак. Для параўнання, ВАЗ каштаваў больш за дзесяць тысяч марак, а «Запарожац» – больш за сем.**

Попыт на «Трабанты» заўсёды значна перавышаў прапанову. І чаргі на машыну можна было чакаць гадамі. Пасля аб'яднання Германіі ўсе гэтыя аўтамабільныя маркі перасталі існаваць, а заводы вярнулі ранейшым уладальнікам.

### Тэлебачанне

Галоўная тэлерадыёкампанія ГДР працавала ад 1952 да 1990 года. Былі два асноўныя тэлеканалы. Тут паказвалі навіны, палітычныя перадачы, у якіх хвалілі жыццё ў краінах савецкага блока і крытыкавалі капіталізм. З канца 1970-х з дапамогай спецыяльнай антэны можна было лавіць тэлеканалы ФРГ, аднак якасць была дрэнная. Тут можна было пачуць папулярныя нямецкія гурты, а ноччу часам паказвалі эратычныя фільмы.

### Адпачынак

Большасць жыхароў адпачывалі ўнутры краіны – у кемпінгах ці дамах адпачынку на беразе Балтыйскага мора. Паездкі за мяжу былі дасяжныя нешматлікім жыхарам ГДР. Калі ўсё ж выязджалі, то ў СССР, Польшчу, Чэхаславакію. У капіталістычныя краіны, а тым больш у ФРГ, трапіць было практычна немагчыма.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК
паводле bbc.com.

# Кінула працу айцішніка ў Мінску і стала настаўнікам вясковай школы

**Пра тое, як гэта – памяняць высокааплатную працу на штосьці новае, пераехаць са сталіцы ў Споնды на Астравеччыне, а галоўнае – навошта, расказала Алена Пуціліна.**

Цяпер Алена Пуціліна працуе настаўніцай хіміі, біялогіі і англійскай мовы ў Спондаўскім дзіцячым садзе-сярэдняй школе. Рашыцца на перамены ў жыцці ёй дапамагла праграма «Настаўнік для Беларусі».

### Працавала тэсціроўшчыцай і бізнес-аналітыкам

Алена вучылася ў мінскай гімназіі амаль на выдатна. Адным з любімых прадметаў была матэматыка. Заўважала, што некаторыя ўрокі атрымліваліся больш цікавымі не з-за зместу падручніка, а дзякуючы настаўніку.

– Памятаю сваю першую настаўніцу, яна чароўная! – прыгадвае Алена. – Мы прыйшлі ў школу зусім маленькімі дзеткамі. Яна давала нам першыя веды, навучанне праходзіла на беларускай мове. Наталля Аляксандраўна расказвала пра нашу культуру, прыгажосць прыроды. Бацькі дапамагалі нам шыць народныя касцюмы, вышыванкі. Першая настаўніца сфарміравала каштоўнасці, расказала пра неверагодныя багацці Беларусі, традыцыі і культуру.

Дзяўчына атрымала вышэйшую адукацыю ў Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце. Працавала інжынерам-лесапатолагам у Рэспубліканскім лясным насенняводчым цэнтры, архітэктарам у вядучым праектным інстытуце. Была індывідуальным прадпрымальнікам, але ў нейкі момант вырашыла вярнуцца ў найм. Хацелася зрабіць гэта па-разумнаму: рэалізаваць інтэлектуальныя здольнасці і атрымліваць за гэта годную зарплату. Знайшла курсы і ад 2014 года пачала працаваць інжынерам па якасці праграмнага забеспячэння – тэсціроўшчыцай. Пасля праходзіла перакваліфікацыю і працавала бізнес-аналітыкам.

– Стала заўважаць, што ўсе мае сілы сыходзяць на кар'еру, – дзеліцца Алена. – Зусім не заставалася часу на тое, каб займацца валанцёрствам, дапамагаць дабрачынным арганізацыям. Я заўсёды мела актыўную грамадзянскую пазіцыю, для мяне вельмі важна рабіць сацыяльны ўклад, мяняць свет да лепшага, вырашаць актуальныя праблемы, якія спеюць у грамадстве. Я стала выгараць на працы. Хутчэй за ўсё, на гэта паўплываў менавіта аддалены фармат працы, бо я пачала так працаваць не ў 2020 годзе, як многія, а з 2015 года. Атрымліваецца, я ўжо даўно была замкнутая ва ўласнай кватэры. Хацелася больш свабоды, думала аб пераездзе ў вёску, каб было менш суседзяў за сцяной, больш зеляніны і птушак вакол.

### «Навучылася і печку паліць, і ваду з калодзежа насіць, і з мышамі ваяваць»

Так супала, што менавіта ў гэты час лёс падкінуў дзяўчыне магчымасць памяняць жыццё і паспрабаваць штосьці новае. Аднойчы раніцай позірк прыцягнуў загаловак у газеце. Там было напісана прыкладна такое: «Хочаце пераехаць у вёску і прыняць удзел у класным праекце? Тады далучайцеся!»

– Я зразумела – гэта знак, момант прыйшоў. Падала заяўку літаральна ў апошні дзень, набор ужо закрываўся. Не думала, што на мяне звернуць увагу, але ўжо праз два дні мне патэлефанавалі.

Спачатку было міні-сумоўе. Пасля запрасілі на яшчэ адзін этап адбору. Кожны раз адчыняліся наступныя дзверы. На адной з гутарак давялося цяжка. У мінчанкі спыталіся, ці зможа пераехаць у вёску, калі не мае нават мінімальнага досведу жыцця ў сельскай мясцовасці? Ці зможа памяняць высокую зарплату айцішніка на нізкую зарплату настаўніка?

– Не кожны разумее ўсю сур'ёзнасць таго, што адбываецца. Забягаючы наперад, магу сказаць, што сумневы тыя былі марныя. Я навучылася і печку паліць, і ваду са студні насіць, і з мышамі ваявала зімой. У барацьбе з цяжкасцямі мне дапамагае «вагон аптымізму» – так адбіваюся, калі мне задаюць пытанні.

### Як змянілася школа

– Спецыяльных педагагічных ведаў не хапала. Праграма «Настаўнік для Беларусі» дае ўсе магчымасці для старту ў школе. Я прыняла ўдзел у адукацыйным курсе «Летні інтэнсіў», а потым паступіла ў магістратуру педагагічнага ўніверсітэта, каб грунтоўна разабрацца ў асновах педагогікі, набыць важныя навыкі. Вялікую ролю адыгрывае падтрымка метадыстаў і куратараў, якіх прапануе праграма. Я маю глыбокія веды ў прадметных галінах, але метадыст дапамагае мне ператварыцца ў сапраўднага настаўніка.



Спондаўскі дзіцячы сад-сярэдняя школа.

Фота Алены ПУЦІЛІНАЙ.

У практыцы ўзнікаюць пытанні, якія выходзяць за рамкі прадметнай вобласці і нават педагогікі. Але ў любы момант можна звярнуцца па дапамогу да калег, бо «Настаўнік для Беларусі» – гэта супольнасць аднадумцаў і прафесіяналаў.

– Не заўсёды трэба вынаходзіць кола, не ўсе праблемы ўнікальныя. Я магу папрасіць параду ў дасведчаных настаўнікаў, якія з'яўляюцца ўдзельнікамі праграмы, як і я.

У Спондаўскай школе 49 вучняў, у класах па 2-8 чалавек. Перад пачаткам працы Алена прыязджала пазнаёміцца з адміністрацыяй. Прынялі цёпла, стала зразумела, што дырэктар вельмі зацікаўленая ў дабрабыце вучняў і школы.

Акрамя выкладання, удзельнікі праграмы рэалізуюць праектную дзейнасць – гэта можа быць гурток або любая іншая актыўнасць, якая пойдзе на карысць школьнікам і супольнасці.

Алена вырашыла ладзіць па мерапрыемстве кожную чвэрць. За адзін год паспелі зрабіць квэст «Вандруем разам», тэматычны «Тыдзень пошты», запрашалі аўтарскі лялечны тэатр, зладзілі конкурс па вырабе кармушак «Птушыная сталоўка».

Школа атрымала спонсарскую дапамогу, дзякуючы якой арганізавалі творчы куток з яркай мэбляй. Цяпер гэта самае тусовачнае месца для школьнікаў. Таксама набылі ўвільгатняльнікі для паветра, мэблю ў дзіцячы садок.

### Змянілася жыццё

– Калі пераехала, паўсталі розныя складанасці. Гэта пераважна пытанні бытавога характару. Падумала, што лепш вырашыць усе гэтыя праблемы, чым працягваць мірыцца з імі. Увосень правялі ваду ў настаўніцкую кватэру, адрамантавалі каналізацыю, купілі пральную машыну. Зрабілі рамонт у суседняй кватэры, каб там таксама змаглі размяшчацца настаўнікі, якія прыязджаюць працаваць у школу. Гэта таксама частка маёй праектнай дзейнасці, якая не накіраваная наўпрост на вучняў, але ўскосна ўплывае на іх.

Алена адзначае, як моцна змянілася жыццё:

– Я назіраю за птушкамі, хаджу на прагулкі, гляджу на сляды, наведваю мясцовыя славутасці і часам адчуваю сябе першаадкрывальнікам. Амаль кожны дзень раблю маленькія адкрыцці, атрымліваю новы досвед і даражу гэтым. Не ўпэўненая, што на ўсё жыццё я застануся ў прафесіі, але ўжо цяпер здаецца, што буду прымаць удзел у адукацыйных праектах у далейшым, працаваць з дзецьмі. Часам самыя малодшыя школьнікі частуюць цукеркамі. Гэта вельмі кранальна, бо для дзіцяці гэта велізарная каштоўнасць. Я хачу, каб дзеці верылі ў сябе і свае сілы, смела марылі, раскрывалі таленты, былі свабоднымі ад стэрэатыпаў, усведамлялі сваю ўнікальнасць, не баяліся прымаць рашэнні і здзяйсняць учынкі, не баяліся памыліцца, спатыкнуцца, не баяліся быць сабой.

### Як стаць удзельнікам праграмы

Калі вас натхняе прыклад Алены, вы можаце падаць заяўку на трэці набор праграмы «Настаўнік для Беларусі» да 23 мая. Праграму рэалізуе мясцовы адукацыйны фонд «Новая школа». Заснавальнік фонду – ААТ «БПС-Сбербанк».

Мэта праграмы – забяспечыць у школах райцэнтраў і вёсак магчымасць вучыцца не на горшым узроўні, чым у вялікіх гарадах. Калі вы адчуваеце жаданне стаць настаўнікам, запоўніце заяўку па адрасе: **http://teach4.by/anketa.**

Школы, якія зацікаўленыя ў таленавітых кадрах, могуць заявіць, што гатовы прыняць настаўніка ў межах праграмы на гэтай старонцы: **http://teach4.by/school.**

Акрамя адукацыйнай праграмы, дапамогі метадыста і куратара, удзельнік праграмы будзе атрымліваць стыпендыю ў памеры 250 рублёў, кампенсацыю за арэнду жылля, а таксама ноўтбук для працы.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Опера і гарадскія кубы. Два праекты маладзечанцаў прайшлі ў паўфінал Social Weekend

**Пра тое, як змяніць горад і не толькі кожны з праектаў маладзечанскіх творцаў, мы папрасілі расказаць аўтараў ідэй.**

7 і 8 мая ўдзельнікі конкурсу выступалі перад журы. Цяпер іх чакае навучальны блок. 27 мая адбудзецца паўфінал. Аўтары ідэй, якія пройдуць гэты этап, будуць займацца прапрацоўкай сваіх праектаў. 24 чэрвеня абяруць пераможцаў, якія атрымаюць падтрымку на ўвасабленне задумы.



Крэатыўны мастак Базіната.

### Праект Базіната: Гарадскія кубы

– Мяне завуць Базыль, я мастак і даследчык. Шмат працую з публічнай прасторай. Адзін з праектаў, у якім я ўдзельнічаў, – «Вуліца стрыт-фуда», дзе сцены ларкоў мы распісвалі разам з дзецьмі мастацкай школы. Аб'екты будуць размяшчацца ў раёне Парашкоў. Праект накіраваны на змяненне сцэнароў штодзённага гарадскога жыцця, а таксама на фарміраванне лакальнай супольнасці праз сумеснае будаўніцтва аб'ектаў архітэктуры і дызайну ў публічнай дваровай прасторы.

Для мяне гэта болевая кропка, таму я нашы публічныя прасторы ўяўляю дастаткова пустымі.

> **Заўсёды хацелася, каб людзі выкарыстоўвалі іх як месцы для дыялогаў і ўзаемадзеяння, каб гэтыя месцы давалі магчымасць праяўляць сябе.**

Таму ў сваім мікрараёне разам з жыхарамі хачу пабудаваць канструкцыі ў выглядзе кубоў. Праз закладзеныя ў іх функцыі яны будуць даваць магчымасць для ўзаемадзеяння і дыялогу. Мы прыдумалі чатыры прататыпы урбан-кубоў. Першы – для актыўнасцяў, дзе бацькі разам з дзецьмі могуць бавіць час актыўна. Другі – для абмену рэчамі, кнігамі, інфармацыяй, аб'явамі. Трэці – для творчасці, мастацтва, дзе можна рабіць выставы, прэзентацыі, глядзець кіно. Чацвёрты – дзе можна збірацца, размаўляць, піць чай, гуляць у настольныя гульні.

Думаю, праект стане прыкладам, як раён можа змяніцца, змяніць сцэнар гарадскога жыцця, што ў гэтыя новыя сцэнары змогуць уліцца мясцовыя жыхары і ўзяць для сябе штосьці новае. Мы штодзень бачым адзін аднаго, суседзяў і іх машыны, але не ведаем, чым яны захапляюцца. Побач з табой можа быць цудоўны чалавек, а мы іх не ведаем.



Оперны спявак Андрэй Мікульчык.

### Праект Андрэя Мікульчыка: Міжнародная оперная студыя для маладых выканаўцаў

– Мой праект можа функцыянаваць рознымі спосабамі. Мы ўжо праходзілі такі варыянт – рэпетыцыі ў Маладзечне, паказы твораў таксама ў Маладзечне, а таксама ў іншых гарадах. Оперу «Служанка-спадарыня» двойчы паказвалі ў Італіі.

Планую, што ў межах праекта студыя будзе праводзіць гастролі з удзелам маладых беларускіх выканаўцаў па розных населеных пунктах краіны. Першыя паказы з удзелам замежных спевакоў адбудуцца ў Маладзечне і Мінску.

У Беларусі шмат добрых оперных спевакоў, але існуе толькі адна оперная студыя пры Акадэміі музыкі, куды могуць трапіць адзінкі. Каб пачуць оперу, жыхары з іншых гарадоў павінны ехаць у Мінск. Яшчэ адзін момант – оперны тэатр у Мінску ладзіць пастаноўкі, якія складаныя для ўспрымання непадрыхтаванаму гледачу.

> **Культура развівае людзей.**

Таксама я займаюся перакладам некаторых опер, рамансаў, песень на беларускую мову. У будучым верагодна паставім оперу, але на беларускай мове.

### Пра конкурс праектаў

Цяперашні конкурс сацыяльных праектаў Social Weekend адбываецца ў 16-ы раз. Сярод удзельнікаў конкурсу ў мінулыя гады – вілейскі скейт-парк, маладзечанская «Вуліца стрыт-фуда».

Конкурс сацыяльных праектаў Social Weekend існуе больш за сем год. За гэты час у ім удзельнічала каля 4000 ідэй. І дзякуючы конкурсу праекты атрымалі падтрымку на больш як 400 тысяч долараў у эквіваленце.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Палітзняволены Вадзім Гурман знайшоўся ў калоніі ў Горках

## Родныя не ведалі некалькі тыдняў, дзе ён

**Некалькі тыдняў сваякі і блізкія Вадзіма Гурмана не ведалі, дзе знаходзіцца палітзняволены. Дэпартамент выканання пакаранняў не паведамляў пра месцазнаходжанне асуджанага, але на пачатку тыдня маці зняволенага прыйшоў ліст з Горак.**



Вадзім Гурман падчас судовага следства.

### «Здарыцца суіцыд ці нешта яшчэ, мама, не вер: проста забілі»

Сваякам палітзняволенага Вадзіма Гурмана не паведамлялі пра яго месцазнаходжанне, гэта зазначаў незарэгістраваны праваабарончы цэнтр «Вясна» са спасылкай на родных Гурмана.

Апошні раз маці Вадзіма **Вольга Кузьміна** і яго нявеста **Віялета** бачыліся з ім на спатканні ў турме №8 у Жодзіне 20 красавіка. Яго прывялі ў кайданках, на ім быў чырвоны цэтлік: праз тое, што яго паставілі на ўлік як «схільнага да ўцёкаў, нападу на персанал, арганізацыю бунтаў, тэрарыстычных актаў, сацыяльна небяспечнага».

Тады ён паведаміў сваякам, што цягам трох дзён яго мусяць перавесці ў ПК-9 у Горках для адбыцця пакарання. Таксама ён папярэдзіў: калі з ім «здарыцца суіцыд ці нешта яшчэ, мама, не вер: проста забілі».

Цяпер ужо больш за два тыдні сваякі не атрымліваюць лістоў і ніякай інфармацыі пра месцазнаходжанне Вадзіма.

– 30 красавіка я паехала ў Дэпартамент выканання пакаранняў на прыём да намесніка міністра МУС, – распавяла маці Вадзіма Вольга. – Але генерал-маёр Маткін мяне не прыняў: я размаўляла з яго намеснікам. Я хацела ўдакладніць, дзе знаходзіцца маё дзіця, але там больш, напэўна, пасмяяліся і пажартавалі. Сказалі: «Не валодаем дадзенай інфармацыяй. Вас апавясцяць у пісьмовым выглядзе». Сказалі, маўляў, пачулі вашы пажаданні, куды накіроўваць. Бо я прасіла, каб яго змясцілі ў Навасады: гэта блізка да Маладзечна, не ўяўляю, як без асабістага транспарту ездзіць у Магілёўскую вобласць, куды яго планавалі накіраваць…

### Знайшоўся ў Горках

Вадзім Гурман праз тры тыдні знайшоўся ў папраўчай калоніі ў Горках, што ў Магілёўскай вобласці. Ліст з гэтай інфармацыяй прыйшоў маці хлопца Вользе Кузьміной.

У лісце паведамляецца, што Вадзім Гурман прыбыў у папраўчую калонію ў Горках для адбыцця тэрміну пакарання 6 мая. У ім адзначаецца, што Гурман мае права атрымаць за адзін год чатыры пасылкі ці перадачы, дзве бандэролі ці два невялікія пакеты. Асуджаны мае права на тры кароткатэрміновыя і тры працяглыя спатканні.

### За што асудзілі Гурмана

У лютым у судзе Маладзечанскага раёна над Вадзімам Гурманам адбыўся суд па падзеях 9 жніўня 2020 года. Суддзя **Вольга Дубовік** пакарала маладзечанца 3 гадамі і 6 месяцамі папраўчай калоніі па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса. Гурмана абвінавачвалі ў актыўным удзеле ў дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак, а таксама ў пагрозах гвалтам у дачыненні да супрацоўнікаў мясцовага аддзялення міліцыі.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# У Маладзечне двое мужчын атрымалі 25 сутак за тое, што ездзілі з БЧБ-сцягам

**9 мая ў Маладзечне затрымалі двух мужчын за тое, што яны ездзілі ў машыне па Вялікім Гасцінцы з бел-чырвона-белым сцягам.**

З відэакамер, што ўсталяваны на Вялікім Гасцінцы, бачна, што мужчыны едуць па вуліцы на кабрыялеце, пасажыр трымае бел-чырвона-белы сцяг у руках.

Затрыманых завуць **Павел Кучко** і **Аляксандр Лях**. Абодвух затрымалі каля іх дома. Па словах сведкаў, перадае незарэгістраваны праваабарончы цэнтр «Вясна», мужчыны былі збітыя.

**Відавочца Арцём Ліпніцкі расказаў «Рэгіянальнай газеце», што бачыў аўтамабіль, на якім ехалі Кучко і Лях. Але яны ў гэты момант ужо не трымалі бел-чырвона-белы сцяг. Па словах Арцёма, адразу за машынай мужчын ехала міліцэйскае аўто.**

– Яны ехалі па Будаўнікоў у бок Скарыны. Адразу за імі ехала газэлька. У ёй былі людзі ў чорным. Не памятаю, ці ў балаклавах, але твары былі закрытыя. І вось, што цікава, трымалі чырвона-зялёны сцяг.

Паўла Кучко і Аляксандра Ляха асудзілі 10 мая ў судзе Маладзечанскага раёна. Абодва атрымалі па 25 сутак адміністрацыйнага арышту.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота з інтэрнэт-крыніц.

Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

Падчас гульні з «Коласам».

# У ФК «Маладзечна» першая перамога ў сезоне

**8 мая маладзечанскія футбалісты правялі першы матч у сезоне. Гульня з чэрвеньскім «Коласам» адбылася ў рамках Кубка Беларусі.**

У першым тайме маладзечанцы адзначыліся двойчы. На 37-й хвіліне ў варатарскай зоне дабіў мяч у вароты **Сяргей Булынёнак**, а на 44-й галавой забіў **Раман Вінцукоўскі**.

Пасля перапынку на замену **Максіма Чабрыцкага** выйшаў **Аляксей Лотыш**. Ён адзначыўся ў сустрэчы ўжо праз дзесяць хвілін: на 55-й забіў гол.

Праз 15 хвілін пасля пачатку другога тайма трэнер «Маладзечна» **Сяргей Дараховіч** правёў яшчэ чатыры замены гульцоў. З поля сышлі Сяргей Булынёнак, **Мікіта Мятліцкі**, **Артур Сарамаха**, **Уладзіслаў Фядотаў**. Замест іх выйшлі **Глеб Гулецкі**, **Сяргей Тарчыла**, **Уладзіслаў Шумілаў** і **Раман Бурак**.

**Замены апраўдалі сябе, бо на 63-й хвіліне Сяргей Тарчыла забіў чацвёрты гол у вароты саперніка.**

На апошняй хвіліне сустрэчы пяты гол забіў Шумілаў, які таксама выйшаў на замену.

Такім чынам, маладзечанцы атрымалі перамогу ў першай гульні сезона – **5:0**.

Галоўны трэнер ФК «Маладзечна» **Сяргей Дараховіч** пракаментаваў першую перамогу ў сезоне такім чынам:

– Нам будзе дакладна цяжка гуляць з такімі камандамі, як «Колас», з іх эшаланаванай сістэмай абароны. Хлопцамі ў большай ступені задаволены. Канешне, не ўсё, што праходзім на трэніроўках, атрымліваецца выканаць у гульні, але будзем набіраць ад матча да матча. Задаволены навічкамі, хочацца адзначыць маладых хлопцаў, якія сёння далі да гульні свежасці і адзначыліся першымі мячамі.

Наступны матч маладзечанцы правядуць 15 мая на выездзе супраць дзяржынскага «Адзінства». Ён пройдзе ў рамках чэмпіянату Беларусі ў другой лізе. Нагадаем, што першы матч чэмпіянату маладзечанцаў адмянілі, бо каманда сапернікаў не змагла прыехаць на сустрэчу.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Анонс матчаў другой лігі

16 мая пройдуць чарговыя сустрэчы ў чэмпіянаце другой лігі.

«Адзінства» (Дзяржынск) – «Маладзечна»

«Вілія» (Вілейка) – «Колас» (Чэрвень).

## «Ашмяны» перамаглі ў Кубку

ФСК «Ашмяны» выступае ў Кубку Беларусі. 8 мая каманда згуляла супраць ваўкавыскай «Змены».

Ашмянцы забілі ўжо ў першым тайме: **Іван Суша** адзначыўся дакладным ударам у вароты саперніка. У другім тайме ў «Змены» быў шанец зраўняць лік, аднак ашмянскі галкіпер адбіў мяч. Гульня завяршылася на карысць «Ашмянаў» – **1:0**.

**Настасся УТКІНА.**

## «Астравец» забіў 11 мячоў у Кубку Беларусі

9 мая «Астравец» згуляў супраць «Слонім-Сіці» ў папярэднім этапе Кубка Беларусі. Астравецкія футбалісты перамаглі сваіх сапернікаў з буйным лікам – **11:0**.

Галы ў сустрэчы забівалі **Аляксей Хадневіч**, **Дзмітры Купнеўскі**, **Георгі Чытанава**, **Аляксандр Буцько**, **Ягор Кашко**. Хадневіч забіў пяць разоў, Купнеўскі адзначыўся тройчы. Кашко, Буцько і Чытанава забілі па адным голе ў вароты «Слоніма».

**Настасся УТКІНА.**

## «Смаргонь» прайграла «Нёману»

Смаргонскія футбалісты прайгралі ў восьмым туры вышэйшай лігі гродзенскаму «Нёману». Сустрэча прайшла 7 мая на стадыёне ў Смаргоні.

Першы тайм завяршыўся «сухой» нічыёй. У прадстаўнікоў гродзенскай каманды быў шанец рэалізаваць пенальці на 42-й хвіліне, але **Ягор Зубовіч** трапіў у перакладзіну. У другім тайме гродзенскія футбалісты двойчы забілі ў вароты смаргонцаў. На 54-й хвіліне Зубовіч дакладна прабівае ў вароты саперніка з перадачы **Аляксандра Джыгера**. А на 84-й хвіліне адзначаецца ўжо сам Джыгера. Такім чынам, смаргонцы прайгралі з лікам **0:2**.

«Смаргонь» займае 15-е месца ў турнірнай табліцы вышэйшай лігі (1 перамога, 1 нічыя, 6 паражэнняў).

**Настасся УТКІНА.**

## Ягор Шаранговіч набраў 30 ачкоў у дэбютным сезоне НХЛ

10 мая каманда «Нью-Джэрсі» правяла апошні матч у цяперашнім сезоне Нацыянальнай хакейнай лігі. Яна не выйшла ў плэй-оф.

Беларускі форвард з вілейскімі каранямі **Ягор Шаранговіч** згуляў у 54 матчах з 56 у рэгулярным чэмпіянаце. На рахунку форварда 30 ачкоў (16+14). У сярэднім Шаранговіч праводзіў на лёдзе 16 хвілін і 49 секунд, паказальнік карысці «-5».

Адзначым, што 22-гадовы форвард стаў трэцім бамбардзірам каманды па выніках сезона, саступіўшы **Паўлу Захе** – 35 ачкоў, **Джэку Х'юзу** – 31 ачко. Пры гэтым Шаранговіч стаў другім снайперам каманды.

Магчыма, Ягор Шаранговіч згуляе за зборную Беларусі на чэмпіянаце свету. Ён пройдзе 21 мая – 6 чэрвеня ў Рызе.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Працяглая гаворка, словы дзеючай асобы ў літаратурным творы, звернутыя да другой асобы або да самога сябе ці непасрэдна да гледача.
5. Узор, схема чаго-небудзь, звычайна ў паменшаным выглядзе.
6. Машына, якая ператварае які-небудзь від энергіі ў механічную энергію.
7. Вялікі выраз у верхняй частцы жаночага адзення.
9. Род задачы-галаваломкі на адгадванне слоў, размешчаных у клетачках такім чынам, што апошняя літара папярэдняга слова з'яўляецца першай літарай наступнага.
10. Вялікі твор, у якім апісваюцца буйныя гістарычныя падзеі.
14. Жалезны кручок з ручкай для падымання і пераносу патэльні.
15. Сукупнасць упрыгожанняў.
16. Прымаць ежу, пеpажоўваючы яе і глытаючы.
17. Дзеянне моцнай сілы, націск.
20. Агульная назва лёгкіх пасажырскіх павозак.
21. Вузкая лента з дзяленнямі, якая накручваецца на валік, змешчаны ў футляры, і служыць для вымярэння.
23. Правасуддзе, судаводства.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Адмоўная велічыня.
2. Знешнія формы паводзін, спосаб трымацца.
3. Спецыяльна прыстасаванае месца, будынак для стаянкі і рамонту лакаматываў, вагонаў
4. Раздзел фізікі, які вывучае святло, яго законы і ўласцівасці.
6. Пачуццё вялікай асалоды, задаволенасці, якое выклікае вясёлы настрой.
8. Падмосткі для канцэртных выступленняў артыстаў.
10. Шырокае распаўсюджанне якой-небудзь заразнай хваробы чалавека.
11. У медыцыне – утварэнне язваў на паверхні эпітэлію.
12. Родныя людзі.
13. Разрад атмасфернай электрычнасці ў паветры, звычайна ў выглядзе яркай звілістай лініі.
14. Частка сцябла, кораня або ліста, якая аддзяляецца ад расліны для вегетатыўнага размнажэння і ў спрыяльных умовах развіваецца ў самастойную расліну.
18. Частка тэрыторыі, якая складае адзінае цэлае ў якіх-небудзь (эканамічных, геаграфічных) адносінах.
19. Плоскі, аднолькава шырокі і нятоўсты кавалак дрэва, выпілаваны або вычасаны з бервяна.
22. Які належыць іншаму.
24. Густаватае духмянае рэчыва, якое мае ў сваім саставе смолы, эфірны алей і іншыя кампаненты і выкарыстоўваецца ў тэхніцы, медыцыне і парфумерыі.

## Адказы на крыжаванку з №19

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Бугор. 4. Корпус. 7. Цвярозасць. 10. Кума. 11. Ніколі. 12. Галава. 16. Сятчатка. 17. Ікра. 19. Стол. 21. Ганец. 23. Наперад. 25. Будан. 26. Гняздо.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Сухі. 3. Брыво. 5. Баланс. 6. Ідэя. 8. Купюра. 9. Гожа. 10. Курок. 13. Ідал. 14. Контур. 15. Гаць. 16. Стратэгія. 18. Сустрэча. 20. Нашча. 22. Калібр. 24. Набег.

## ГАРАСКОП НА 14-20 МАЯ



**АВЕН.** У сваім асяроддзі вы будзеце папулярным чалавекам, таму вас будуць запрашаць на святочныя мерапрыемствы, вам гэта дакладна запомніцца. Хутчэй за ўсё, падняць келіхі прыйдзецца ў кампаніі розных сяброў: сёння тут – заўтра там.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам хочацца зрабіць паўзу і як след абдумаць, што адбываецца ў вашым жыцці. Ад рашэння, якое рыхтуецеся прыняць, залежыць многае ў жыцці тых людзей, якія вас моцна любяць. Памятайце пра гэта і не спяшайцеся.



**БЛІЗНЯТЫ.** Надыходзіць ваш час, і ўсё вакол ззяе яркімі фарбамі. На працы ўсё будзе ладзіцца. Блізкія, хутчэй за ўсё, аб'яднаяюць намаганні і паднясуць вам па-сапраўднаму каралеўскі падарунак, пра які вы нават і не марылі.



**РАК.** Становішча планет павысіць вашу энергію і хватку ў плане грошай. Вы будзеце такія актыўныя, што самі сябе здзівіце. Нікому нават у галаву не прыйдзе не даць вам тое, што па праву належыць. Выдатна – рыхтуйце запасы.



**ЛЕЎ.** Вы за словам у кішэню не палезеце і пакажаце на месца любому, хто асмеліцца праяўляць незадаволенасць вамі ці вашымі блізкімі. Гэта добры перыяд для публічных выступленняў і для адстойвання ўласнага меркавання.



**ДЗЕВА.** Вы ганарыцеся блізкімі, а блізкія ганарацца вамі. І шануюць, і любяць, і паважаюць. А сябры сям'і захапляюцца вашым уменнем ствараць гармонію ў сям'і. Ці гэта не нагода павысіць самаацэнку?



**ШАЛІ.** Эмоцыі тых, хто вакол вас, напаліліся, і абстаноўка абвострыцца. Аднак ваша тонкая інтуіцыя дазволіць адрозніць, дзе трэба прапусціць выпад міма вушэй, а дзе смела ўвязацца ў бой.



**СКАРПІЁН.** Вы цалкам кіруеце тым, што з вамі адбываецца, і кантралюеце ўсё. Нарэшце ўпэўнены ў тым, што з вамі ўсё ў парадку. Выдатны час, каб расслабіцца – пачытаць цікавыя кнігі, выспацца.



**СТРАЛЕЦ.** Зоркі кажуць пра моцны ўплыў статусу вашага каханага чалавека на сілу пачуццяў. У вашым уяўленні цяпер каханне і беднасць цалкам не спалучаюцца. Хто ведае, магчыма, вы і маеце рацыю?



**КАЗЯРОГ.** Вам увесь час прыйдзецца спыняць і абсякаць кагосьці з калег. З аднаго боку, вядома, трэба ўмець трымаць сябе ў руках. Але з іншага, часам трэба выпускаць пару, таму не прымайце ўсё блізка да сэрца.



**ВАДАЛЕЙ.** За вашу працу вы атрымаеце не так шмат, як разлічваеце. Але стаўленне да вас у цэлым памяняецца, стане больш паважлівым. Паступова вы набіраеце неабходныя ачкі і балы да новага статусу. Працягвайце ў тым жа духу.



**РЫБЫ.** Дзякуючы планетам на вашу вуліцу прыйдзе свята. Высокая верагоднасць павышэння на пасадзе, кар'ернага росту, і ўсё дзякуючы сяброўству з уплывовымі людзьмі. Вялікая ўдача – не губляйце гэтых сувязяў.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | 2 | | | 6 | |
| | | 8 | | 1 | | | | 2 |
| | | | 3 | | 7 | | | 9 |
| | 5 | 4 | | | | | | |
| | 8 | 9 | | 7 | | 6 | | |
| 1 | | | 2 | | | | | 5 |
| | 9 | | 8 | 3 | | 5 | | |
| | 4 | 3 | | | | | 1 | 6 |
| 7 | | | 6 | 4 | | 9 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by




## Гаспадыні, настаўніца, жывёлагадоўца. Глядзіце, якіх жанчын з рэгіёна ўзнагародзілі ордэнам Маці

6 мая Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб узнагароджанні ордэнам Маці жанчын, якія нарадзілі і выхоўваюць пяць і больш дзяцей. Глядзіце, якія мамы з рэгіёна трапілі ў спіс.

**Алена Крошчанка** – гаспадыня са Смаргоні;

**Кацярына Яроўская** – кладаўшчыца камунальнага сельгаспрадпрыемства «Агра-Солы», што на Смаргоншчыне;

**Вераніка Адзінцова** – прыёмшчыца другасных матэрыяльных рэсурсаў Вілейскай ЖКГ;

**Наталля Аўдзеева** – аператар машыннага даення сельгасфіліяла «ЮНІК-АГРА» прадпрыемства «Малочны гасцінец». Філіял, дзе працуе жанчына, знаходзіцца ў вёсцы Забалацце на Вілейшчыне;

**Ала Бурлуцкая** – гаспадыня з Маладзечна;

**Вераніка Драздоўская** – санітарка санаторыя «Сасновы бор», што ў Радашкавічах;

**Наталля Заякіна** – гаспадыня з курортнага пасёлка Нарач;

**Святлана Ляўко** – жывёлагадоўца сельгасфіліяла «ЮНІК-АГРА» прадпрыемства «Малочны гасцінец» на Вілейшчыне;

**Вольга Мушніцкая** – сацыяльны работнік Вілейскага тэрытарыяльнага цэнтра сацабслугоўвання;

**Наталля Рапановіч** – настаўніца Радашкавіцкай сярэдняй школы;

**Крысціна Строк** – медсястра Маладзечанскай ЦРБ;

**Настасся Трандафілава** – гаспадыня з Чысці;

**Ганна Шастак** – прадавец прыватнага гандлёвага прадпрыемства «Лівадзія КАМ» Маладзечанскага раёна.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Гальшанах адкрылі адноўленую вежу замка

6 мая адбылося ўрачыстае адкрыццё Паўночнай вежы Гальшанскага замка і турыстычна-інфармацыйнага цэнтра пры ім.

«Падзея, без перабольшвання, знакавая, – напісаў у фэйсбуку рэстаўратар Ігар Чарняўскі.

– Не ведаю, як хто, а я яе чакаў крыху больш за сорак гадоў, з дажджлівага і халоднага верасня 1980-га, калі разам з калегамі па навукова-даследчаму праектнаму бюро спецыялізаваных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў пры Мінкультуры БССР правялі папярэднія работы на замку... У той час былі толькі мары пра будучыню славутага замка. Але добра, што, як бачым, мары матэрыялізуюцца. Шкада, праўда, што ў гэтыя хвалюючыя хвіліны каля замка малавата было тых, дзякуючы майстэрству чыіх рук гэта падзея адбылася, хто ўсё ж выпадкова ці не прысутнічаў, сціпла туліліся з тылу ўзрушанага натоўпу».

**Аддзел інфармацыі.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Якія ўспаміны звязаны ў вас з будслаўскім касцёлам?

11 мая гарэў будслаўскі касцёл. Гэта падзея адгукнулася ў сэрцах сотняў беларусаў. Мы папрасілі падзяліцца жыхароў нашага рэгіёна сваімі пачуццямі і ўспамінамі аб касцёле ў Будславе.



**Настасся:**
– Самым лепшым і запамінальным часам стала першая ў маім жыцці пешая пілігрымка да санктуарыя. Малітвы падчас яе аб'ядналі сэрца, душу і розум.



**Вольга:**
– У Будславе жыве сястра. Таму на фэсце была шмат разоў. Святочныя службы, асаблівa хросны ход ноччу, кранаюць душу. Песні і музыка для моладзі, святая імша запамінающа надоўга. Сястра званіла і расказвала са слязамі, што з падворку бачна, як гарыць касцёл. Для жыхароў гэта як родны дом.



**Яўген:**
– У мяне карані з Беларусі, дзесьці з-пад Нарачы і Мядзела, але сам жыву ў Екацярынбургу. Будаваў у Астраўцы атамную станцыю. Вельмі падабаецца Беларусь. Будслаў – класнае месца і касцёл таксама, спадабалася там.



**Настасся:**
– Мой тата з Будслава. Наш дом стаіць літаральна за якія сем дамоў ад касцёла. У дзяцінстве, пакуль была жывая бабуля, амаль кожнае лета сюды прыязджалі. Тата праваслаўны, але касцёл заўсёды быў сімвалам і цэнтрам для ўсіх вяскоўцаў, а будслаўскі фэст – усеагульным святам. Цяжка паверыць у тое, што здарылася.



**Ганна:**
– Будслаўскі касцёл запомніўся пілігрымкай. У яе я хадзіла летам 2018 года. Гэта непаўторная атмасфера, ветлівыя людзі. Мы прайшлі 82 кіламетры з песнямі і малітвай, а ў Будславе нас цёпла сустрэў касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## Чытайце праз тыдзень:

● Якія палітычныя партыі ў пачатку 20 стагоддзя актыўнічалі на тэрыторыі нашага рэгіёна? Яны былі легальныя ці за грамадзянскую пазіцыю саджалі?

## 15 мая, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 3-4 м/с




Паводле rp5.by.








Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).

№20 (1359) 14.05.2021. У розніцу – цана свабодная.

Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.

Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.

Зак. 794. Падпісана ў друк у 9.00 13.05.2021.

**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.

Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**

Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**

E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**

Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.

Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.